PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК
БЕЛАРУСАЎ
У ПОЛЬШЧЫ

№ 31 (2151) Год XLII Беласток 3 жніўня 1997 г. Цана 1 зл.

# Пакаштавалі фальклору



*Ля вогнішча з „Бярозкамі" з Кнарыю.*

**Ганна Кандрацюк**

— А вы на Янку Купалу нэ былі? — пытае 84-гадовая Надзея Марціновіч са Студзіводаў.

Бабуля — крыніца народнай мудрасці, абрадаў і творчасці. Яе песні выяўляюць старажытную паэтыку і мелодыю, асаблівую эстэтыку і этыку.

— Вы гэтага і так не зразумееце, — сумняваецца ці расказваць пачутую ад сваёй прабабкі легенду пра адзін крыж у сваёй мясціне.

Старэчы прывыклі да жыцця за мяжой незразумення. А тут начапіліся нейкія дзеткі і хочуць слухаць старое? Абрад Купалля для бабкі Надзеі сучасны і нездарма асацыюецца з прозвішчам класіка беларускай літаратуры.

У Студзіводах вельмі сардэчна сустракалі ўдзельнікаў XI Сустрэч „Зоркі". Асабліва тыя, якія адзываліся на беларускай мове. Гэтая прыгарадская вёска, хаця і нацыянальна памешаная, жыве ў падляшска-праваслаўнай атмасферы. Побач магазінаў хутчэй пачуеце дзядкоў, якія размаўляюць *па-свойму*. Размалянванне і пасвячэнне каляровага крыжа ў Студзіводах сталася падзеяй. Дзеткам дапамагалі старэйшыя мужчыны, а кабеты распяшчалі іх смачнымі пірагамі.

У чарговай вёсцы Пеліках мы запісвалі старыя песні, легенды і народныя меркаванні наконт паводкі на захадзе Польшчы.

— Я яшчэ маленька была, — кажа адна цётка, — калі мая мама казалі: „Будэ ездіті такі чоловік по світі і за ім усе людэ будут бігаті".

— То ж і праўда, — ківае галавой другая жанчына. — То і падумаць, так пазалівала. А нас на Беласточчыне, дзе праваслаўны народ, то пабачце! Бог ўсё роўна нас ацаляе.

Паводле жанчын з Пелік людзям канец прыйдзе. Ды і незадоўга. А ўсяму вінаваты пілігрымкі рымскага папы. Яшчэ ў часы дзяцінства маёй субяседніцы старыя маладых навучалі: „Будзе ездзіць той чалавек па свеце. Але вы не ідзіце і не кланяйцеся яму". Дарэчы, не толькі ў Піліках у паводцы абвінавачваюць рымскага папу. Такія ж меркаванні пачуеце па ўсёй праваслаўнай Беласточчыне. У польска-беларускіх вёсках мясцовыя каталікі вераць у пачутае і здараецца што здымаюць партрэты рымскага папы.

Кнарыды — вёска таксама нацыянальна і рэлігійна памешаная. Тут, як і ў Студзіводах, дарослыя размаўляюць па-падляшску. На вуліцы процьма дзяцей. Большасць з іх прыехала сюды на канікулы. Аздобай вёскі ёсць калектыў „Бярозкі". Спявае ў ім дзесяць жанчын. Ад пяці гадоў калектывам кіруе спадарыня Аля Нігярэвіч. На супольным вогнішчы знаёмімся са спявачкамі і іх песнямі.

— Чакаем малодшых, — кажа Зінаіда Дунікоўская, заснавальніца „Бярозак". — Але яны ўжо не хочуць так спяваць.

У мясцовай школе, дзе мы начавалі, якраз праводзілі рамонт. Дырэктар Сцяпан Стральчук хвалюецца за будучыню школы. Зараз тут за шэсцьдзесят дзетак.

Самай апусцелай вёскай у наваколлі з'яўляецца Мокрэ — вёска старых людзей. На ўсёй паўтаракіламетровай вуліцы не відаць жыцця. Толькі ў канцы, дзе прыехала аўтакрама, выйшла некалькі старэч. У Мокрым мы запісалі старажытныя песні ад Марыі Нікіцюк. Цікава, што нашы людзі лічаць сваімі песнямі не толькі тыя „на простай мове", але і расейскія ці ўкраінскія. Адкрытасць на іншую культуру ёсць натуральнай з'явай для праваслаўных жыхароў Падляшша. Мяне найбольш здзівіла прысутнасць польскіх і рускіх песень у абрадзе вяселля.

Бабуля Марыся нарадзілася ў 1917 годзе.

— Цяпер ужо жыць не хочацца, — кажа яна. — Старому чалавеку лепш бы памерці.

Бабуля Марыся не здзіўляецца нашай вандроўцы. Яе ўнучка Гося Дзмітрук — мастачка, і як наведае яе з дзедам, то таксама ўсім цікавіцца. Мокрэ — гэта родная вёска паэта Юркі Баены.

У час рэйду па Бельшчыне людзі паўтаралі:

— Ідзіце ў Дубяжын. Там найпрыгажэй спяваюць.

І праўда. Сустрэча з калектывам „Родына" была незабыўным для нас вопытам. Галасістыя песні дубяжынскіх артыстаў напоўнілі нас жыццярадаснай энергіяй. „Родына" толькі што вярнулася з замежнага падарожжа па заходняй Еўропе.

— Спяваем пераважна свае песні, — кажа Іван Раманчук.

І нас у Дубяжыне прынялі як сваіх. Дарэчы, на Падляшшы існуе пачуццё культурнай іншасці, незалежнае ад беларускай ці ўкраінскай думкі. Пераканаўся ў гэтым наш сябра, мінчук Алег

[працяг ☞ 3]



*Са спадарствам Нікіцюкамі сустрэліся мы ў Мокрым.*

# У нумары

# Мы прачыталі

*Jeszcze niedawno mówiło się, że indeks na medycynę kosztuje Malucha. Obecnie markami samochodów już się nie operuje. Gotówka też nie jest popularna. Dziś indeks kupuje się na raty — biorąc korepetycje u pracowników naukowych wymarzonej uczelni. Korepetytorzy uczą jedynie jak zdać egzamin. Godzina lekcyjna zajęć u doktorów i adiunktów kosztuje od 50 do 100 zł. Często korepetytorzy traktują swoich prywatnych uczniów tak, jak przywykli traktować studentów, czyli niepoważnie, tyle, że kasują odpowiednie sumy. W rzeczywistości drogie korepetycje u asystentów, doktorów i profesorów mają pewien podtekst — rodzice liczą na to, że korepetytor zasiądzie w komisji rekrutacyjnej i po starej znajomości pomoże szczęściu przyszłego studenta. Większość korepetytorów z reguły nie ma nic wspólnego z rekrutacją, lecz nie wyprowadza swoich klientów z błędu.*

*Natomiast pazerność polskich uczelni na pieniądze studentów wieczorowych i zaocznych przekroczyła już dopuszczalne granice.*

*Polityka, nr 27*

* * *

*Powódź Kłodzka stała się horrorem. Miasto było systematycznie rabowane. Grupy wyrostków okradały sklepy, hurtownie, mieszkania. W biały dzień wynosili wódkę, konserwy, sprzęt elektroniczny, kartony papierosów. Do łapania bandytów wysłano jedynie 60 ludzi ze straży miejskiej, policji i wojska. Powódź przyszła nocą. Chociaż zagraniczne rozgłośnie radiowe mówiły o zagrożeniu powodziowym, na Śląsku nikt nie uprzedził mieszkańców o niebezpieczeństwie. Gdzie było wojsko? Kłodzka jednostka specjalistyczna, posiadająca sprzęt, nawet nie wyszła z koszar. Nie było rozkazu. Po przejściu fali powodziowej domy i ulice zalane były mułem. Żołnierzy jednak wysłano do czyszczenia pomnika reklamującego PZU.*

*Gazeta Wyborcza, nr 159*

* * *

*Demokracja — rozumiana jako poszanowanie praworządnych struktur i procedur — nie jest wartością cenioną ani przez szefa państwa białoruskiego, ani przez znaczną część społeczeństwa. Wielu Białorusinów przestało liczyć, że za wykonaną pracę otrzyma środki potrzebne do życia. Skansen, w jakim przechowały się relikty radzieckiego systemu, państwo anachroniczne — mówią o gospodarce Białorusi zagraniczni obserwatorzy. Poza Kubą i Koreą Północną nie ma takiego kraju. Łukaszenko dzięki nowej konstytucji otrzymał władzę niemal absolutną. Ważne decyzje zapadają na mocy dekretów prezydenckich. W ten sposób może być uchwalony nawet budżet kraju. Prezydent stale rozmawia z Białorusinami — na zwołanych przez siebie zjazdach z udziałem przedstawicieli kolektywów pracowniczych i na wiecach gromadzących tłumy w prowincjonalnych miastach, poprzez „telemosty" transmitowane przez państwową telewizję. To co mówi, zazwyczaj nas śmieszy socrealistyczną poetyką i przeraża treścią. Jednak ton i treść tych wystąpień współbrzmi z oczekiwaniami przeciętnego Białorusina. Najwyższą formą dialogu Łukaszenki ze społeczeństwem są referenda.*

*Nie bardzo nawet można już sobie wyobrazić uzdrowienia białoruskiej gospodarki — niektórym kojarzy się ona z trójkątem bermudzkim, w którym mógłby zginąć każda ilość wpompowanych pieniędzy.*

*Rzeczpospolita, nr 159*

* * *

*Дарагія суайчыннікі! Сёння ўсе мы балюча адчуваем жахлівыя вынікі эканамічнага і палітычнага крызісу і здрады. Нашыя дзеці недаядаюць. Заўсёды цярплівы народ губляе веру ў будучыню... Народ Беларусі! У імя будучыні нашых дзяцей — абаронім ад манкуртаў незалежнасць Бацькаўшчыны.*

*Беларускі Дайджэст, н-р 7*

Гэта фрагмент „Звароту інтэлігенцыі да народа Беларусі", пад якім падпісалася звыш 200 інтэлектуалаў з Рэспублікі Беларусь, у тым ліку ўсе вядомыя пісьменнікі і прафесары вышэйшых навучальных устаноў.

* * *

*Minęły trzy lata od dnia, kiedy dyrektor kołchozu spod Mohylewa został prezydentem Białorusi. W ciągu trzech lat prezydentury Łukaszence udało się sprawić, że o Białorusi usłyszał cały świat. Aby stało się to możliwe wystarczyłoby już tylko jedno zdanie prezydenta: „Ja swego kraju za cywilizowanym światem nie poprowadzę". Prezydent jest przekonany, że będzie jeszcze rządził Białorusią przez 12 lat.*

*Gazeta Wyborcza, nr 160*

Як дазволіць здароўе, тады нават даўжэй.

* * *

*Jeden z największych jasnowidzów XX wieku Edgar Cayce przepowiedział w 1934 roku, że koniec świata nastąpi około 2000 roku. Wybuchną wulkany, przesuną się bieguny, Europa zmieni kształt, w Ameryce rozstąpi się ziemia i Nowy Jork zginie. Japonię zaleje morze. Najsłynniejszy jasnowidz w dziejach — Nostradamus przyczyn końca świata przewiduje w problemach politycznych. Przewiduje początek III wojny światowej w 1999 r. Również amerykański jasnowidz Jeane Dixon przepowiada początek wojny na 1999 r. Europę zaleje wówczas fala islamskich fundamentalistów. Francuski astrofizyk Chantel Regourd ostrzega, że do Ziemi zbliża się asteroid o średnicy około 2 km. Nawet kiedy minie Ziemię w odległości 100 tys. kilometrów, uniesione falą przyciągania wody mórz i oceanów zaleją połowę lądów planety. Zagłada ma nastąpić dokładnie 26 września 2000 roku.*

*Gwiazdy mówią, nr 27*

# З мінулага тыдня

**Памяць** сарака васьмі чалавек, загінуўшых у выніку паводкі, 18 ліпеня ўшанавала ўся Польшча. У гэты дзень дзяржаўныя сцягі на будынках устаноў былі на знак жалобы апярэзаны чорнай стужкай і апушчаны да паловы флагштока. У беластоцкім кафедральным Свята-Мікалаеўскім саборы непасрэдна пасля літургіі архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі **Сава** ўзначаліў паніхіду за ахвяры паводкі.

**Праваслаўныя Беласточчыны** збіраюць у храмах грошы для пацярпеўшых ад паводкі. У нядзелю 13 ліпеня толькі ў Беластоку сабралі 17,5 тыс. зл., якія былі пералічаны на рахунак Польскага чырвонага крыжа. А **Епархіяльны цэнтр міласэрнасці** ў Беластоку збірае харчовыя прадукты і неабходныя пацярпеўшым рэчы. Першы транспарт быў адпраўлены ў Вроцлаў і перададзены архіепіскапу **Ерамії** на дапамогу веруючым Вроцлаўска-Шчэцінскай епархіі.

**Прэм'ер-міністр Уладзімеж Цімашэвіч** перапрасіў грамадства за словы, якія ён выказаў на пачатку паводкі. Тады сказаў ён, што ўрад не будзе пакрываць страт для пацярпеўшых ад паводкі, паколькі кожны з іх меў магчымасць застрахаваць сваю маёмасць. Прэм'ер згадзіўся, што яго выказванне не было сэнсоўным у складаўшайся сітуацыі і таму выклікала яно раздражненне ў абліччы хутка нарастаючай стыхіі. Кіраўнік урада заявіў таксама, што ўрад прафінансуе будову каля тысячы танных кватэр для тых, што пацярпелі ў выніку паводкі. Рада Міністраў на нечарговым пасяджэнні вырашыла прапанаваць нізкапрацэнтныя крэдыты для тых сем'яў, якім паводка знішчыла жыллё. Паводле папярэдніх даных, такіх сем'яў будзе 44 тысячы.

**Сенат** адобрыў закон аб стварэнні з 1 кастрычніка г.г. самастойнага універсітэта ў Беластоку. Ніводзін з прысутных на пасяджэнні сенатараў не супрацівіўся гэтай ініцыятыве. За стварэнне універсітэта выказаліся 74 сенатары, а чатырох устрымаліся ад галасавання. Дакумент набудзе законную сілу пасля яго падпісання прэзідэнтам **Аляксандрам Кваснеўскім**.

**У Браньску** мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы **Васілій** пасвяціў краевугольны камень пад пабудову новага храма.

**У Быдгашчы** закончыўся XX Міжнароды музычны конкурс. У ім удзельнічалі 33 музычныя калектывы з 12 краін. Харавая капэла хлопчыкаў і юнакоў і Сімфанічны камерны аркестр пад кіраўніцтвам **Вольгі Кастэнкі** з Брэста сталі ўладальнікамі ў сваіх намінацыях адпаведна залатой і сярэбранай струн. Галоўны прыз конкурсу, Гран-пры, і 600 долараў таксама заваявалі брэсцкія спевакі, а саліст харавой капэлы **Аляксандр Семянюк** атрымаў першую персанальную прэмію. Дарэчы, брэсцкіх спевакоў запрасілі выступіць у Швецыю, Бельгію і Францыю.

**Беластоцкая Медыцынская акадэмія** наладзіла супрацоўніцтва з Медыцынскім інстытутам у Гродне. У яго рамках чацвёра беларускіх студэнтаў польскай нацыянальнасці адбывалі ў ліпені месячную практыку ў беластоцкіх бальніцах. Прадугледжваецца таксама двухмесячная навуковая стажыроўка для шасці выкладчыкаў гродзенскага інстытута.

**Беластоцкая паліцыя** правяла акцыю „Мак — каноплі '97". У выніку былі ліквідаваны два макавыя палеткі ў гміне Браньск. Раней невялікія палеткі былі знойдзены ў гмінах Дабжынева і Монькі. За нелегальнае вырошчванне маку можна атрымаць нават два гады турэмнага зняволення.

## Неўзабаве ў „Ніве"

- Эксгумацыя і перапахаванне вазакоў, памардаваных бандай „Бурага" — рэпартаж Міколы Ваўранюка.
- Другі З'езд беларусаў свету ў Мінску — рэпартаж Алега Латышонка.

# Весткі з Беларусі

**Курс вызначаны**

„Курс выбраны прэзідэнтам краіны падтрымліваецца не толькі народам, але і ўсёй яго камандай", — сказаў журналістам Аляксандр Лукашэнка ў адказ на пытанне, што яму ўдалося зрабіць за тры гады прэзідэнцкай улады. На яго думку, стабілізацыя ў эканоміцы рэспублікі яшчэ не наступіла, аднак святло ў канцы тунеля ўжо з'явілася. „У нас, у камандзе, няма хістанняў, курс вызначаны і гэтым курсам мы будзем ісці", — падкрэсліў прэзідэнт.

**Рух назад**

Намеснік старшыні БНФ Вінцук Вячорка трохгадовы перыяд знаходжання Аляксандра Лукашэнкі пры ўладзе назваў рухам назад. На яго думку, за гэты час поўнасцю разбуралася прамысловасць, не ўзніклі новыя прадпрыемствы, а Беларусь не мае ніякай карысці са свайго геаграфічнага палажэння. Гаспадарка краіны поўнасцю падпарадкавалася Маскве і яе манаполіям. Каманда Лукашэнкі, так як любы акупацыйны рэжым, знішчае асновы нацыянальнай экзістэнцыі беларускага народа — мову, культуру, традыцыю і гістарычную памяць.

**Размовы з апазіцыяй**

Прэзідэнт Беларусі прыняў для дакладу міністра замежных спраў Івана Антановіча. Кіраўнік знешнепалітычнага ведамства паінфармаваў прэзідэнта краіны аб маючых адбыцца сустрэчах прадстаўнікоў улады з апазіцыяй і камісіяй экспертаў Еўрапейскага Саюза. У сваю чаргу кіраўнік дзяржавы падкрэсліў, што будучы дыялог прадугледжвае двухбаковы кантакт і еўрапейскія арганізацыі павінны таксама зрабіць пазітыўныя крокі ў адказ.

**За саюзную дзяржаву**

Ад саюза дзяржаў да адзінай саюзнай дзяржавы — такі галоўны лозунг беларуска-расейскага руху „Народнае адзінства", аргкамітэт якога нядаўна быў створаны ў Маскве. Ягоным старшынёй выбраны дэпутат Дзярждумы Мікалай Ганчар. У склад названага камітэта ўвайшлі прадстаўнікі адзінаццаці рэгіёнаў Расіі і пяці абласцей Беларусі. Члены аргкамітэта выступаюць за правядзенне рэферэндуму ў абедзвюх дзяржавах па пытанні: ці падтрымліваеце вы аб'яднанне Беларусі і Расеі ў адзіную саюзную федэратыўную дзяржаву?

**Новае пасольства**

У Турцыі адкрылася пасольства Беларусі. 16 ліпеня пасол Павел Лепяшко ўручыў у Анкары даверчыя граматы турэцкаму прэзідэнту Сулейману Дэмірэлю. У рамках пасольства будзе дзейнічаць апарат эканамічнага саветніка, а сёлета ў Стамбуле плануецца адкрыць Генеральнае консульства РБ.

**Славутае журы**

На Міжнародным фестывалі мастацтваў „Славянскі базар '97" адбыўся асноўны конкурс маладых выканаўцаў папулярнай песні. Да яго рыхталіся не толькі семнаццаць спевакоў з пятнаццаці краін свету, але і журы. Традыцыйна адбываецца яго штогадовая ратацыя. На гэты раз, услед за Мішэлем Легранам, Андрэем Пятровым і іншымі мэтрамі, пасаду старшыні журы ўзначаліў вядомы беларускі кампазітар Ігар Лучанок. Склад журы выклікаў не меншае захапленне, чым выканаўцы. Сярод суддзяў былі, між іншым, Марыля Радовіч, Мурат Гергалієў, Анні Вескі, Сафія Ратару, Тамара Гарцыцэлі, Іван Дзямідаў.

**Палатно замест футра**

Работнікі Жлобінскага аб'яднання штучнага футра знайшлі магчымасць не толькі захаваць рабочыя месцы на прадпрыемстве, але і пашырыць вытворчасць. Дзякуючы новым распрацоўкам фабрычных тэхнолагаў і мадэльераў футравікі не маюць даўгоў перад пастаўшчыкамі сыравіны і энергетыкамі, а ў найбліжэйшы час збіраюцца наладзіць выпуск біяпалатна, якое вельмі патрэбнае меліяратарам, што дазволіць павялічыць прыбытак.

**Ртуць у сметніцы**

Грамадзяне, якія чакалі гарадскі транспарт на прыпынку ў завулку Каржанеўскага ў Менску нават не маглі падумаць, якое небяспечнае рэчыва знаходзілася ў скрыньцы для смецця, што стаяла побач. 14 ліпеня днём у ёй знайшлі амаль паўтара кілаграма разлітай ртуці. Гэтая вадкасць была вывезена ў бяспечнае месца, а акалічнасці здарэння высвятляюцца.

# Пакаштавалі фальклор

[1 ☞ праця̆г]
Кабзар. У вёсцы Пілікі сустрэўся ён са старажылам, спадаром Врублеўскім. Дарэчы, спадар Врублеўскі — пастаянны чытач „Нівы". На жаданне А. Кабзара праспяваць беларускую песню дзядуля заспяваў „Беларусачку", а калі папытаўся пра ўкраінскія песні, наш інфарматар заспяваў „Ой на горы, там жэньці жнут". Інакш рэагуюць людзі, калі пытаеш іх пра „свае" песні. І толькі ў такі спосаб можна на Падляшшы сабраць арыгінальны этнаграфічны матэрыял.

Атмасфера свойскасці і тутэйшасці сустрэла нас у Дубяжыне — мясціне, якую ўкраінскія сродкі масавай інфармацыі назначылі вострашам украінскасці. Сапраўднай праблемай гэтай вёскі ёсць сорак распітых старых кавалераў. Людзі наракаюць на знішчэнне будынка нядаўняй школы, дзе зараз знаходзіцца бар, які ў народзе называюць *бардаком*. Варта адзначыць, што навучанне беларускай мовы ў Кнарыдах трымаецца на школьніках з былой школы ў Дубяжыне.

Дубяжын — гэта асаблівая вёска на Падляшшы. Песні яшчэ і зараз напаўняюць вёску артыстычнай атмасферай. Мяне ўразіла раніца ў гэтай мясціне. А палове пятай я рашыла агляну́ць вёску. Вечарам не было для гэтага нагоды, бо навокал будынка, дзе мы начавалі, зышліся хмары п'яных кавалераў. Непадалёк нас быў магазін і ноч паказвалася на неспакойную. На шчасце хлопцы зразумелі, „што стомленыя дзеткі хочуць спаць" і пайшлі буяніць у другі канец вёскі.

Ранняй раніцай Дубяжын блішчэў свежасцю і чысцінёй. Дзядзька, які гнаў на луг карову, быццам салавей высвістваў мелодыю тутэйшай песні. Да таго ж разліваўся святочны настрой, бо дзень быў асаблівы — свята Пятра і Паўла.

У наваколлі Дубяжына і Кнарыд многа лясоў багатых чарніцамі, таму часта можна было сустрэць мясцовых з вядзерцам чарніц, малін або кошыкам грыбоў.

У Тапчыкалах частавалі нас крынічнай вадой з прыгожага шклянога збана. Так было ў баярскай частцы вёскі.

— Мне прыгадаліся жыды, якія так як і вы ішлі гэтым гасцінцам у Боцькі, — пачаў успамінаць старэйшы дзядзька.

Пра гісторыю вёскі тапчыкалаўцы чулі ад *беларускіх*. „Беларускімі" назвалі яны ўдзельнікаў тэатральнай вандроўкі Янкі Морданя і „Жывога слова". У сялянскай частцы Тапчыкал людзі не хацелі размаўляць. Як агню баяліся дыктафона.

— Бо яшчэ ў тэлевізары або радыё пакажаце, — бараніліся.

У Тапчыкалах, як і ў Кашалях, людзі ўспаміналі спадара Мікалая Ляшчынскага з Орлі.

— Ён усё ведаў пра нашы тэрэны, — паўтаралі.

Дадатковым атракцыёнам было частае называнне нашага рэйду місійным паходам.

— Ja sie urodzil w cerkwi i w cerkwi umre. — заявіў, не ссядаючы з веласіпеда жыхар Кашалёў. Дзядзька не даў нават магчымасці нам прадставіцца.

— Бо і ходзяць, ратунку няма, — гавораць пра прапаведнікаў іншых веравызнанняў жыхары Кашалёў.

У Орлі пачаў ісці дождж. Удзельнікі XI Сустрэч „Зоркі" ўвесь тыдзень цешыліся сонечным надвор'ем.

— Людзі паставілі там калісьці крыж, каб ратавацца ад халеры, а мы — каб абараніцца ад дажджу, — жартавалі многія.

Сутыкненне з народнай эстэтыкай паўплывала на атмасферу мерапрыемства. Удзельнікі з захапленнем спявалі старыя хрысціянскія песні, вясельныя, бытавыя. Зараз пошук фальклору ўспрымаецца як добрая гульня і навука.

— Цяпер няма таго жыцця, што калісьці, — паўталі людзі.

Самым папулярным матывам фальклорнай творчасці зараз з'яўляюцца легенды пра канец свету.

— Будуць крывавіць каровы, хатняя жывіна, а пазней усё згарыць у пякельным агні, — расказвае адна бабуля.

Здаецца, што многія вёскі не дачакаюць гэтага чорнага прадвесця. Многія з іх памруць натуральнай смерцю. У такой сітуацыі фальклор асаблівы. Шчаслівы той, хто пакаштаваў яго з чыстай крыніцы.

**Ганна Кандрацюк**
*Фота аўтара*

# Затрачаная верагоднасць

Да чыноўнікаў мясцовага самаўрада я дагэтуль ставіўся з пашанай і лічыў іх адказнымі і добрасумленнымі работнікамі.

У пачатках ліпеня г.г. друкавалася мая публікацыя „Хто вінаваты" („Ніва" № 27 ад 6 ліпеня 1997 г.), у якой я намагаўся знайсці адказ на пытанне: чаму за адно і тое ж поле вымушаны быў я два разы плаціць падаходны падатак? Мне паказвалася, што віноўнымі ў гэтай справе былі працаўнікі Арлянскай гміны. Пасля аднак выявілася, што гэтай кашы наварыла дамачка ў нашай гміне.

Калі я звярнуўся з праблемай да войта Чаромхаўскай гміны, той паслаў мяне да кампетэнтнага працаўніка. Там мне так паяснілі справу:

— Згодна з новым законам вы павінны плаціць падаходны падатак у тую гміну, дзе знаходзіцца поле, значыцца, за сенажаці ў Орлю, за апошняе — у Чаромху.

— Я ўжо заплаціў у Арлянскую гміну, — кажу чыноўніцы.

— Гэта добра... Мы з вас у Чаромсе ніякіх грошай не бралі...

Дамачка так пераканаўча паясняла мне справу, гледзячы ў камп'ютэр, што я паверыў яе словам. Хачу прытым адзначыць, што з сабою не меў я ніякіх дакументаў. Калі зазірнуў да іх у хаце, аказалася, што не магу разабрацца ў звычайнай матэматыцы.

Пайшоў я зноў у сваю гміну, гэтым разам з неабходнымі дакументамі. Не застаў я ў канторы працаўніцы, якая раней паясняла мне справу. Яе сяброўкі, разгледзеўшы абодва „наказы" (з Чаромхі і Орлі), былі згодны з маімі думкамі. Мне два разы прыйшлося заплаціць падаходны падатак за адно і тое ж поле.

— Пакіньце свае паперы ў нас, — папрасіла ветлівая адна з жанчын. — Прыедзе пані Надзя і з усім разбярэцца. Гэта яе справа...

Так я і зрабіў.

Калі некалькі дзён пазней завітаў я ў гміну, мне дару́чылі новае рашэнне. У ім гаварылася, што ўплачаную суму ў гміне Орля залічваюць мне за падаходны падатак III і IV растэрміноўкі. Такім вось чынам я дабіўся праўды. Ды якім коштам? Гэтае пытанне хачу паставіць самаўрадавым чыноўнікам у Чаромсе.

Калі так будзеце афармляць усе скаргі грамадзян, затраціце, даражэнькія, не толькі сваю верагоднасць у Сідарука, затраціце яе ў насельніцтва ўсяе гміны. Падумайце над гэтым харашэнька!

**Уладзімір Сідарук**

PS. Як мне стала вядома, гэта не адзіны „фокус", які зрабіла вышэйзгаданая працаўніца Чаромхаўскай гміны. Спадзяюся, што мая справа будзе апошняй „памылкай" у яе далейшай працы.

**(ус)**

# Нашы мястэчкі і вёскі

***(праця̆г; пачатак у папярэднім нумары)***

**Пашкоўшчына**

*Пашкувшчына* — вёска ў Арлянскай гміне, існавала ўжо у пачатку XVI стагоддзя. У наваколлі знаходзіцца старое, яшчэ не даследаванае ўрочышча, якое мясцовыя завуць Акопамі. У 1635 г. быў тут вялікі фальварак, які спецыялізаваўся ў жывёлагадоўлі. У 1655 г. 30 гаспадароў займалася на 7,5 валокі зямлі. У 1832 г. вёска налічвала 17 дамоў і больш за сто жыхароў, а ў 1900 г. — 28 дамоў і 210 жыхароў. У кастрычніку 1884 г. была тут адкрыта аднакласная школа граматы, у якой у навучальным годзе 1886/1887 вучылася 14 хлопцаў і 4 дзяўчаты. У 1915 г. большасць жыхароў выехала ў Расію. Пасля вяртання з бежанства вёска налічвала 220 жыхароў. У 1935 г. была пабудавана тут школа, якая працавала да 1994 г. Цяпер у школьным будынку адбываюцца дыскатэкі, працуе бар. З гэтай невялікай вёскі — толькі ў пасляваенны перыяд — праваслаўную духоўную семінарыю закончыла 10 чалавек, з ліку якіх 8 служыць святарамі.

Зараз вёска налічвае 140 жыхароў.

**Малінікі**

Вёска ў Арлянскай гміне пры шашы Бельск—Кляшчэлі. Была яна заснавана ў XVI стагоддзі — першая пісьмовая згадка паходзіць з 1524 г. У 1640 г. вёска належала харужаму Закрачымскаму. У 1994-1995 гг. на вясковым могільніку жыхары пабудавалі царкву ў гонар св. мучаніка дзіцятка Гаўрыіла Заблудаўскага. У вёсцы працуе пачатковая школа, у якой дзеці вывучаюць беларускую мову. У Малінніках цяпер жыве 173 чалавек.

**Вулька-Выганоўская**

Пачаткова вёска называлася *Воля*, а першая пісьмовая згадка паходзіць з 1560 г. Быў гэта невялікі маёнтак Яна Ваганоўскага, аднаго з прадстаўнікоў роду Ваганоўскіх з Ваганава ў Брэсцкім павеце. Другі член назвы вёскі ўзяўся ад прозвішча першага ўладальніка. У XVII ст. вёска дастаецца Яну Міло́цкаму, а затым становіцца ўласнасцю Феліксы Зыгмунта Парыса. У 1784 г. у сям'і мясцовага настаяцеля нарадзіўся Міхал Баброўскі, пазнейшы прафесар некалькіх еўрапейскіх універсітэтаў. Быў ён сябрам Ігната Даніловіча, Іаахіма Лялевеля і настаўнікам Адама Міцкевіча. Баброўскі ўвайшоў у пантэон даследчыкаў беларускай і агульнаславянскай культуры.

У 1937 г. у пажары вёскі згарэла царква з часоў Баброўскага. Цяперашні Свята-Міхайлаўскі храм пабудаваны быў у 1953 г. У 1947 г. бандай „Бурага" былі забіты два жыхары вёскі і спалены 27 дамоў колішняга двара.

Цяпер Вулька-Выганоўская налічвае 168 жыхароў. Палова дамоў ужо пустуе. У 1980-х гадах працавала тут яшчэ пачатковая школа.



*Пашкоўшчына.*

**Кошкі**

У 1520 г. падскарбі літоўскі Богуш Багавіцінавіч герба Корчак адкупіў у братоў Градалёў 6 валок зямлі ля ракі Белай і заснаваў на іх вёску Кошкі. Пісьмовая згадка аб гэтым факце паходзіць з 1616 г. Назва вёскі выводзіцца праўдападобна ад кашоў, якія масава выпляталіся мясцовым насельніцтвам. Да сённяшняга дня выступаюць тут характэрныя прозвішчы: Бурак, Плуг, Сліўка, Загон.

Цяпер у Кошках жыве 120 жыхароў. Большасць насельніцтва складаюць пенсіянеры, а пяць дамоў ужо пустуюць. Цераз вёску вядзе асфальтавая дарога. Жыхары наракаюць на адсутнасць тэлефонаў, вулічнага асвятлення і разбітую гравейку, што вядзе да бельскай шашы.

**Рыгораўцы**

Вёска ў Арлянскай гміне, пачаткі якой датуюцца 1617 годам. У XVII ст. належала яна братам Скірмунтам. Каля вёскі знаходзіцца помнік на ваенным могільніку 1915 года. Цяпер вёска налічвае 159 жыхароў.

**Міхал Мінцэвіч**
*Фота аўтара*

# Беласток — Гродна

У нядзелю 20 ліпеня ў беластоцкім амфітэатры прайшлі V Артыстычныя сустрэчы Беласток — Гродна. Прынялі ў іх удзел аматарскія мастацкія калектывы: польскія з Беларусі і беларускія з Польшчы. На мерапрыемстве прысутнічалі высокія госці: віцэ-міністр культуры і мастацтва Рэчы Паспалітай Міхал Ягела, беластоцкі ваявода д-р Анджэй Гаеўскі, пасол Рэспублікі Беларусь у Польшчы Віктар Бурскі, Генеральны консул РБ у Беластоку праф. Міхаіл Слямнёў, дырэктар Аддзела культуры Ваяводскай управы ў Беластоку Казімеж Дэркоўскі і іншыя. Арганізатараў прадстаўлялі старшыня Янка Сычэўскі ад Беларускага грамадска-культурнага таварыства і намеснік старшыні Тадэўш Малевіч ад Саюза палякаў у Беларусі. Традыцыйна ўжо на чарговым беларускім мерапрыемстве ў гэтым годзе прысутнічала і выбарчая кампанія Саюза левых дэмакратаў у асобах Станіслава Малішэўскага, Сяргея Плевы, Збігнева Кшывіцкага і Кшыштафа Бэльярузэльскага; першыя два прысутнічалі да канца, два апошнія паказалі спіны намнога раней.

У артыстычнай частцы Беласточчыну прадстаўлялі толькі гарадскія і мястэчковыя калектывы: „Рассыпаны Гарадок", „Чарамшына", нарваўскі „Малы Пронар", бельская „Маланка", хор Гайнаўскага дома культуры ды беластоцкія „Каласкі", „Зубры", „Прымакі" і хор БГКТ. Нашы ансамблі паказаліся з вельмі добрага боку і мне цяжка які з іх вылучыць на фоне другіх. Усе спявалі лірычныя эстрадныя і мясцовыя народныя песні. Публіцы найбольш падабаліся дынамічныя „Прымакі", магчыма што заслуга ў гэтым саліста ансамбля, які да тае публікі ставіўся найбольш прымільна, прычым рабіў гэта на бездакорнай беларушчыне, што мяне вельмі прыемна задзівіла.

З Гродзеншчыны прыехалі дзіцячыя калектывы з Ваўкавыска, Слоніма і Гродна. Першы з іх будзе мець пра што ўспамінаць: прыйшлося дзеткам танцаваць у калюжынах вады і нябляга яны прамоклі ад таго даджжу знізу і сядзелі пазней у мокрых вопратцы і абутку — не мелі, відаць, з сабою іншых. Другія танцоры пазней мітусіліся ўжо на сухім кавалку эстрады. Малыя спевакі са Слоніма на пачатак і заканчэнне заспявалі па-беларуску; развіталіся яны з публікай песняй „Бывайце здаровы". Але выканалі яны і роднага ім кракавяка. Ды і рэпертуар апошніх у большасці складалі песні, якія выконвала калісь „Mazowsze" — датычыць гэта і дарослых, якія прыехалі з Гродна, Ваўкавыска і Шчучына; хор з Ваўкавыска заспяваў нават рэлігійную песню. Мне найбольш спадабаўся гродзенскі хор „Głos znad Niemna" і то не толькі з увагі на выканаўчае майстэрства яго спевакоў, але перад усім з увагі на тое, што ў яго рэпертуары былі творы не завезеныя звонку, але звязаныя з Гродзеншчынай. Адмоўнае ўражанне пакінуў затое ў мяне хор са Шчучына, якога дырыжор лазіў перад сваімі ж выканаўцамі і публікай у нацягнутым на вочы саламяным капелюшы; пазней, калі ішоў па дыплом, варушыўся ўжо даволі шпарка. Да таго ж вельмі прыгожая лірычная песня „Dziś do ciebie przyjść nie mogę" была гэтым хорам выканана нейкім псеўдагераічным крыкам. І яшчэ песня пра Віслу... Gdzie Krym, gdzie Rzym?..

Канцэрт працягваўся больш за тры гадзіны і закончыла яго супольнае выкананне песняў „Piękna nasza Polska cała" і „Люблю наш край". Гледачы выходзілі задаволеныя. Напачатку было іх недзе з пяць разоў больш, чым афіцыйных гасцей. Баяліся людзі, відаць, дажджу, які падаў больш за суткі і толькі каля поўдня спыніўся. Пазней аднак, хаця і грымела, памаленьку сталі запаўняцца трыбуны амфітэатра і ў канцы было ўжо народу больш за тысячу. Падчас канцэрта яго арганізатары правялі зборку грошай на дапамогу пацярпелым ад паводкі на поўдні Польшчы; сабралі 1920 злотаў.

**Аляксандр Вярбіцкі**

*Фота Сяргея Грынявіцкага*



*Афіцыйных гасцей было шмат.*

# Бурлівае лета 1997 года

Лета 1997 года аказваецца быць вельмі бурлівым, асабліва ў Польшчы. Не паспелі астыць эмоцыі пасля выезду папы рымскага Яна Паўла ІІ, калі на Польшчу ўпала мора вады, заліваючы чвэрць краіны. Жыхары залітых абшараў гавораць, што гэта было горшае, чым вайна, а вобразы, якія відаць на экранах тэлевізараў, сапраўды напамінаюць краявід пасля перамяшчэння лініі фронту.

Катастрофа на поўдні Польшчы, здаецца, разбурыла зусім усю канструкцыю дзяржаўнага бюджэту на 1997 г. Хаця фінансавыя службы не гавораць, які працэнт грамадзян у гэтым годзе абдаравала сваіх знаёмых і сваякоў нейкай сумай грошай, каб панізіць сабе падаткі, але вядома, што мала было такіх, якія гэтага не зрабілі. Дзяржаўны бюджэт патрацяў сотні мільёнаў новых злотаў, што вельмі хутка паўплывала на вартасць польскай валюты. Цана долара ўзрастае ўжо часам на 5 працэнтаў на працягу аднаго дня — напрыклад, 16 ліпеня. Сітуацыя ў пунктах абмену валюты таго дня напамінала стан з другой паловы васьмідзесятых гадоў, калі ўсе хацелі купляць долары, нават за ненатуральна павышаную цану, спадзеючыся, што за кароткі час будзе яна яшчэ вышэйшай.

Трэці фактар, які паглыбляе крызіс, гэта набліжаючыяся выбары. Партыі, якія цяпер знаходзяцца пры ўладзе, канструявалі бюджэт так, каб людзі адчувалі, „што ёсць добра і будзе яшчэ лепш".

З першых старонак польскай прэсы відаць, што не ёсць добра і малапраўдападобна, што будзе лепш. Асабліва паслядоўнасці катастрафічнай паводкі неўзабаве могуць выклікаць не толькі фінансавы, але і палітычны землятрус. Сёння невядома ўжо аб чым гавораць палітыкі з першай лініі змагання за пасольскія і сенатарскія крэслы, дзе канчаецца выказванне, якое адлюстроўвае заклапочанасць лёсам краіны, а дзе пачынаецца выбарчая прапаганда і змаганне з палітычнай канкурэнцыяй. Як заўсёды пару месяцаў да выбараў наступае параліч у працы дзяржаўнай адміністрацыі. Урараднікі стрымліваюцца падымаць якія-небудзь рашэнні, не маючы ўпэўненасці, хто праз пару месяцаў будзе іх ацэньваць. Палітызаваныя адміністрацыйныя структуры, як спадчына па камуністычнай дзяржаве, праўдападобна яшчэ доўга будуць працаваць згодна з пульсам палітычнага календара краіны, а не з патрэбамі гаспадаркі ці грамадства.

На Беласточчыне, хаця яшчэ нянадта відаць выбарчую кампанію, аднак у газетах, на хвалях радыё, у лакальным тэлебачанні ідзе ціхае змаганне паміж рознымі лагерамі. Кандыдаты, каб звярнуць на сябе ўвагу, абвінавачваюць галоўных канкурэнтаў у апаганьванні іх добрага імя і справы кіруюць на разгляд у судовыя органы.

У нашым беларускім асяроддзі таксама пачалася ўжо вострая выбарчая кампанія. На ўсіх фэстах, арганізаваных Галоўным праўленнем БГКТ, пастаянным пунктам праграмы з'яўляецца рэклама кандыдатаў Саюза левых дэмакратаў. У некаторых цэрквах святары звяртаюць увагу вернікаў на існаванне Выбарчага камітэта славянскай меншасці, як прадстаўляючага інтарэсы праваслаўнага асяроддзя. Дзеячы Беларускага саюза выршылі не лозунгамі, але метадам рацыянальнага пераконвання да сваёй праграмы прыцягнуць да сябе выбаршчыкаў. Яўгена Вапу бачылі ўжо і маглі пагаварыць з ім жыхары некаторых вёсак ад Гарадоцкай да Чаромхаўскай гмін. Вапа, як настаўнік, вырашыў выкарыстаць час канікулаў не толькі для пераконвання беларусаў да сваёй праграмы, але таксама для непасрэднага азнаямлення з іх нават дробнымі праблемамі.

Усё паказвае, што палітычная тэмпература будзе пастаянна ўзрастаць. Пашырацца таксама будзе разгубленасць выбаршчыкаў. Неўзабаве наймацнейшыя на палітычнай сцэне пачнуць карыстацца навейшымі сацыятэхнічнымі метадамі прапаганды, а ў тэлебачанні пачнецца марафон выступленняў найлепшых ілюзіяністаў краіны.

**Яўген Міравіч**

# Нядзеля поўная выбараў

Летняя пара не заахвочвае да звышлюдскіх намаганняў, якіх патрабуе ад кандыдатаў і іхніх дзейсных прыхільнікаў выбарчая кампанія. Усё-такі выбарчы цягнік, у які занялі месцы шматлікія кандыдаты, як беларускія, так славянскія і ўсе *прочыя*, паволі скрануў з месца. Можна было аб тым пераканацца ў нядзелю, 13 ліпеня ў Гайнаўцы і Орлі.

Праваслаўная царква, маўляў, у палітыку не ўмешваецца, але гайнаўскія вернікі маглі пачуць у Свята-Троіцкім саборы заклік падтрымаць Выбарчы камітэт славянскай нацыянальнай меншасці сваімі подпісамі.

Пасля багаслужбы на гарадскім тратуары перад царкоўным дзядзінцам распаўсюджваліся лістоўкі Яўгена Вапы, беларуса. Людзі бралі іх ахвотна, хаця не ўсе змаглі разабрацца, ці беларус — гэта таксама славянін. Некаторыя пыталіся, колькі каштуюць згаданыя лістоўкі. Відаць, думалі, што гэта нейкія святыя абразкі, бо адна бабуля нават набожна пацалавала прыгожы здымак кандыдата. Распаўсюджвальніку зрабілася няёмка...

Памаліўшыся Богу, гайнаўляне маглі пацешыцца квітненнем беларускай культуры ў амфітэатры. БГКТ, як неаднойчы заяўляў яго старшыня, палітыкай не займаецца, але прысутныя маглі пачуць пра кандыдата Янку Сычэўскага ды іншых са спіска СЛД. З'явіліся яны на фэсце ў надзвычайнай колькасці. Апрача лістовак Янкі Сычэўскага і тут з'явіліся лістоўкі Яўгена Вапы. Некаторыя прыхільнікі з ліку спевакоў дэманстрацыйна фарсілі з партрэтам кандыдата заткнутым то за пояс, то ў кішэнь на грудзі. Хвалявала гэта кіраўніцтва канкурэнтнай арганізацыі, якая столькі працы ўкладвае ў выгадаванне спевакоў. Кажуць, вядомая дзяячка БГКТ, знайшоўшы партрэт Вапы за шклоачышчальнікам сваёй машыны, не стрымала нахабства і са злосцю парвала здымак.

Выбарчае змаганне працягвалася і пад вечар у Орлі. Перад гмінным фэстам маладыя хлопцы з Беларускага саюза распаўсюджвалі ўлётку свайго старшыні на вуліцы перад Гмінным асяродкам культуры. Старшыня ў той час вітаўся са шматлікімі знаёмымі. Лістоўку ўзялі і паслы Сяргей Плева і Станіслаў Малішэўскі, якія традыцыйна наведалі фэст. Ля ўвахода на пляцоўку перад ГОКам можна было атрымаць лістоўку старшыні БГКТ з рук самой бухгалтаркі арганізацыі. Пасля пачаўся канцэрт, папярэджаны вітаннем дарагіх гасцей, якія разам са старшынёю БГКТ балаціруюцца са спіска СЛД.

Нідзе не было відаць ніводнай лістоўкі ніякага славянскага кандыдата (калі беларусаў лічыць толькі аславянізаванымі балтамі). Як можна дадумацца, славяне пакуль што прабуюць паліўчыцца, хаця б на сваім спіску. Усё-такі ўсюды можна было пачуць ад аўтарытэтных асоб: „Быў тут Чыквін".

Так выглядала працавітая нядзеля нашых кандыдатаў. Яшчэ некалькі такіх нядзель малітвы, песень і змагання да самай важнай нядзелі — 21 верасня.

**Наглядальнік**

БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ
№ 451

Рэдактар: Сакрат ЯНОВІЧ

Міхась ШАХОВІЧ

* * *

На кожным камені
Крыві, крыві.
На кожным камені
І слёз нямала.
Водгук
Зачараванай дабраты,
Цудоўны свет
Заменены ў скалу.
А скалаў у нас —
Што й сэрца,
То й скала.
Такімі родзімся,
Застылымі ў магму.
Глядзім на свет,
Схаваныя ў масках.
Бывае,
Што ўзляціш душою ўгору,
Глядзіш,
А валуноў —
Што рыцараў у казках.



Мал. Міколы ДАВІДЗЮКА

Леся УКРАІНКА
(1871 — 1913)

* * *

Я бачыла, як ты схіляўся ўніз,
Крыжам сваім прыгнечаны цяжкім,
Ты гаварыў: „Я змучаны... так, сапраўды...
Я вельмі змучаны... Змагацца? А навошта ж?
Я адзінокі і... няма ў мяне ўжо сілы..."
Ды гаварыў так проста і спакойна,
Дрыжала штосьці ў голасе, сляза быццам,
Ды бліскам вочы наліваліся сухім, —
Заўжды быццам... Ля цябе стаяла я,
Ды не наважвалася ні ўзяць цябе за руку,
Ані схіліцца да твайго чала,
Або падвесці... Я глядзела,
Як ты пад крыжам усё сваім хіліўся...
... Ды й потым доўга я глядзела на цябе,
Тады, пры нашым расставанні.
Тады як толькі вобраз твой, мой сябра,
Ў бяссонныя грызнеў мне ночы,
Ўсё голас твой дрыжэў: „Я змучаны... так, сапраўды..."
Паперы белай брала тады картку,
Мне слёзы гэтыя хацелася сабраць,
Што дрыгацелі ў голасе нябачна.
Калісьці так, расказвае легенда, —
Сваёю хустачкай святая Вераніка
Сабраць хацела слёзы й пот Хрыста.
Ды на хусцінцы замест поту й слёз
Застаўся вобраз у вянку цярновым
Знябытага таго, што ўпаў пад крыжам.
О, кожны раз, як я збірала слёзы
Твае, мой дружа, на бялюткую паперу,
Я Веранікі бачыла той цуд...
Я мушу, любы, верыць ў дзіва.
*18.XI.1900*

*З украінскай мовы пераклаў Юры ТРАЧУК*

Віктар ШВЕД

# Штучныя кветкі

*(Апавяданні з маёй маладосці)*

Іван Грайко з Пашкоўшчыны аўдавеў пасля тае першай вялікай вайны. Застаўся з малым Максімкам.

Пачаў шукаць новую жонку. Спадабалася яму якраз мая цётка, сястра майго бацькі, Матрона. Адгулялі вяселле.

Яна ўсё жыццё не магла дараваць Івану, што ён затаіў перад ёю сваё ўдавецтва і нават Максімку вывез быў да сваякоў, калі цётчыны бацькі прыехалі перад вяселлем паглядзець гаспадарку будучага зяця. Не прабачыла, але мірылася, кажучы, што з кім Бог злучыў яе ў царкве, з тым і трэба жыць.

Грайко быў панадным мужчынаю, вясёлым і гаваркім. Надта любіў ён пагасцяваць. Ездзіў па сваяках, але і спрашаў іх у сваю хату, даволі старую ўжо. На Ганну заўсёды прыязджаў ён з Матронаю да нас, у Мора.

Матрона нажыла з ім трое дзяцей; пасынак Максімка, вядома, лічыўся не сваім і кепска меўся. Удаўся ён спакайнотаю, хлопчыкам ціхім ды пачуццёвым. З гадамі вырас на стройнага кавалера. Даволі дзіўнага, аднак: замест бегаць за дзяўчатамі, палюбіў прыроду, асабліва кветкі. Сам узяўся рабіць іх умелымі рукамі. З каляровае паперы, да таго ж здольна, што выглядалі яны, бы жывыя.

З часам яго кветкамі былі аздоблены іконы ў арлянскай царкве. Такія кветкі заказвалі ў Максіма жанчыны, нават з далёкіх вёсак. Платы за сваю работу ён не хацеў, браў грошы толькі на куплю паперы. Меў душу мастака, рабіў тыя кветкі для чыстага свайго задавальнення; хоць разам з тым дбаў пра гаспадарку.

Брат Максіма, Андрэй, таксама ўдаўся чалавекам з талентам. Выдатна вучыўся ён у даваеннай польскай школе ў Орлі, а пасля, за савецкім часам, у беларускай дзесяцігодцы. Быў заўзятым дэкламатарам, і без ягонага ўдзелу не адбывалася аніводная шкалярская ўрачыстасць. Гэтак жа алімпіяды дзіцячай творчасці ў Бельску. У нямецкую вайну перапыніў, натуральна, навуку і — у вызваленне ўжо — нікуды не пайшоў вучыцца. Шкада. Дажывае цяпер век на хутары каля Пашкоўшчыны, пішучы іншы раз польскія вершы, з якімі выступае на фэстах. Чаму якраз польскія?

Але вярнуся да далейшага лёсу Максіма. У тую акупацыю моладзь вывозілі на прымусовую работу ў Нямеччыну. Узялі і Максіма. Час ад часу пісаў ён адтуль кароткія пісьмы бацьку і таму было вядома, што працуе ў нейкага баўэра. Недзе, відаць, у Прусіі... Бо, калі прыйшлі туды саветы і забралі Максіма на фронт, ён неўзабаве загінуў у баях, як гэта зазвычай бывала з няшколенымі салдатамі. Такая традыцыя ў рускіх, што не лічацца яны з жыццём чалавека: вінтоўку ў рукі і „вперёд".

Прапаў на вайне Максім, а пасля прапала і памяць пра яго кветкі.

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Легенда пра крыніцу ў Кнарыдах



Даўно таму праз месца, дзе цяпер знаходзіцца каплічка і крыніца са святой вадой, праходзілі два жабракі — бацька і сын. Бацька быў сляпы. Вандроўнікі спыніліся ля крыніцы, каб напіцца вады. І калі сталі на гэтым месцы, раптам паказалася яснасць. Сын пабачыў, а бацька адчуў нешта незвычайнае. На камяні стаяла жанчына ў белым уборы. „Гэта напэўна Божая Маці" — адразу падумалі вандроўнікі. Праз хвіліну белая жанчына прапала. Тады сын падаў ваду бацьку і той, калі напіўся, пабачыў свет.

Відаць, тады гэтыя людзі і асталіся жыць у цудоўным месцы. Яны, мабыць, і заснавалі Кнарыды.

**Расказаў Дарафей Фіёнік**

## Святая крыніца

*(легенда)*

— Было гэта так, — расказвае Мар'я Валосік, жыхарка Кнарыд. — Праўдападобна першая крыніца са святой вадой знаходзілася ў Шэшылах каля Дубна. Людзі гаварылі, што ў адным двары жыла вялікая пані. Яна памыла ў святой вадзе сабаку і тады крыніца высахла. Людзі кажуць, што гэты калодзежык перанёсся ў Кнарыды. Калісьці людзі верылі ў моц святой вады. Сведчыць аб гэтым здарэнне з немцамі, якія ў час II сусветнай вайны папалілі ўсе навакольныя вёскі, а Кнарыды пакінулі.

Мар'я Валосік расказвала пра камень з адціснутай ступнёй Божай Маці. З самага пачатку камень ляжаў 200 метраў у рове, каля цудадзейнай крыніцы. Пасля яго перанеслі бліжэй святога месца. Каля крыніцы стаяць таксама драўляныя ахвярныя крыжы. Цяпер не ўсе маладыя людзі вераць у моц святой вады.

**Аня Садоўская**
**кл. I „ц" Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы**

## Царква ў Гданьску

Думаю, што кожны хоча пабачыць, як выглядае храм яго веравызнання ў іншым кутку Польшчы. Удзельнікі X Сустрэч „Зоркі" наведалі гданьскую царкву.

Гэты храм выглядае зусім інакш, як цэрквы на Беласточчыне. Мяне здзівіла, што пабудаваны ён з чырвонай цэглы. Іншым неспадзяваным здарэннем было тое, што старэйшы бацюшка не хацеў нас прыняць. Зрабіў гэта малодшы. Аднак (што мяне найбольш здзівіла), гэты бацюшка гаварыў з намі на польскай мове. Айцец Аркадзій Зеляпуха расказаў нам пра гісторыю гданьскай царквы. Сумна стала на сэрцы, калі чалавек даведаўся, што царква не мела свайго месца. Яна нейкі час знаходзілася ў доме. Толькі некалькі гадоў таму знайшлося месца для царквы ў колішнім пратэстанцкім (могільнікавым) крэматорыі.

Цяпер узніклі іншыя праблемы. Людзі бачаць каталіцкую большасць і баяцца прыходзіць у царкву. Аднак на кожнай службе ёсць некалькі дзесяткаў асоб. Як сказаў айцец Аркадзій, на Беласточчыне выхад у царкву з'яўляецца зусім нармальнай справай. Аднак тут, гэта вялікая праблема — прыход ахоплівае тэрыторыю ў 100 квадратных кіламетраў.

Бацюшка Аркадзій Зеляпуха ёсць таксама капеланам у жаўнераў. У войску людзі таксама баяцца прызнавацца да праваслаўя. Айцец Аркадзій ездзіў да жаўнераў і намаўляў іх да ўдзельніцтва ў багаслужбе.

Пасля візіту ў гданьскай царкве я вельмі цешуся, што жыву на Беласточчыне, бо каб быць у царкве, не трэба ехаць 100 кіламетраў.

**Міхал Сцепанюк**

*Фота Лены Глагоўскай*



*☞ Удзельнікі Сустрэч і а. Аркадзій Зелепуха на сходах гданьскай царквы.*

## Крывавая сякера

аўтар — Сільвестар Сталоўн
пастаноўшчык — Джордж Касматас
галоўны герой — Сільвестар Сталоўн
прадукцыя амерыканская

Калі я паглядзела фільм „Кобра", дайшла да вываду, што ён мала рэалістычны і схематычны. Цэлае яго дзеянне — гэта змаганне дабра са злом. Сімпатыю ў гэтым фільме мы накіроўваем у бок **„Кобры"** (Сільвестра Сталоўна), які праславіўся ў фільме „Рэмба". Яго мянушка „Кобра", а сапраўднае імя — Мар'яна, але ён вельмі не любіць, калі хтось яго так называе. Апрача таго характар героя такі, як у вужакі кобры: моцны, цвёрды, круты і жорсткі. Не ўсе паліцэйскія яго любяць, таму што ён карыстаецца сваімі метадамі, якія не ўсе прымяняюць. У першай сцэне гэтага фільма „Кобра" надта грозны. Пасля „Кобры" ставяць загад распраўіцца з бандай псіхапатаў, якія забіваюць для прыемнасці. Самы чорны характар — гэта начны разнік. Забіў ён шаснаццаць асоб і ўсе людзі яго баяцца. Наступнай яго ахвярай з'яўляецца мадэльерка, якая выпадкова запамятала твар забойцы. Знаёміцца яна з „Кобрай", які будзе яе сцерагчы. Пасля двух няўдалых замахаў на яе жыццё „Кобра" забірае дзяўчыну за горад.

Так як кожны добры фільм, пабудаваны ён на агульнай схеме, дзе да вялікай пагоні і расправы з хеўрай забойцаў даходзіць у канцы.

За „Кобрай" і мадэльеркай у пагоню кідаецца банда псіхаў. Там успыхае страляніна, у якой наш герой перамагае начнога разніка і ратуе жыццё мадэльерцы.

У гэтым фільме ёсць некалькі жахлівых сцэн і ліецца многа крыві. Гэта адмоўны яго бок. Фільм мне вельмі падабаўся. Ён трымаў мяне ў вялікай напружанасці.

**Аня Сідарук**
**I клас Беларускага ліцэя ў Бельску-Падляшскім**
*(трэцяе месца ў конкурсе на рэцэнзію)*

## Польска-беларуская крыжаванка № 31

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Łódka | | Gra | Burza / Sny | | | | |
| Lis / Ognisko | | | | Igła | Wiktor (poeta) | Akacja / Czas | |
| | | | | | | | |
| Trzęsa-wisko | | | | | | | |
| | | | Las | | | | |
| Oka | | Krewni, rodzina | | | | | |

## Пішуць сябры

Дарагая „Зорка", вельмі мне падабаліся XI Сустрэчы. Маляванне крыжа ў Студзіводах было цікавым перажываннем. Пазнейшы рэйд у Орлю праз Кнарыды і Дубяжын быў таксама вельмі цікавы і многа з яго можна было даведацца пра гэтыя вёскі. Міла я ўспамінаю нашых апекуноў: Ганну Кандрацюк, Валянціну Бабулевіч, Анну Фіёнік, Дарка Фіёніка, Алега Кабзара, Томка Саевіча і маю найлепшую сяброўку Ірку Кулік. Цяжка напісаць, што мне найбольш падабалася, бо ўсё было вельмі цікавае.

**Цэліна Глагоўская**

# Цудоўная ноч над Нарвай

„Купалле" — гэта час вясёлых гульняў. Звязаны з ім розныя звычаі нашых продкаў, якія былі язычнікамі.

У гэтую чароўную ноч чуваць мелодыю народных песень, гоман моладзі, што гуляе ў лесе або скача цераз вогнішча. У гэтую ноч рака блішчыць святломззяючых свечак у вянках. З ноччу цудаў звязана многа легенд, хаця б пра кветку папараць. Хто знойдзе кветку папараці, той у жыцці ніколі не спазнае няшчасця, беднасці і заўсёды будзе мець грошы. Я сама мела нагоду пабачыць, як Купалле святкуюць украінцы.

Украінскае Купалле адбылося 8 ліпеня ў Плёсках над Нарвай. Трэба сказаць, што месца для святкавання было чароўнае — рэчка, лес, лугі, на якіх сяляне збіраюць сена, і цудоўныя буслы.

Я мела нагоду глядзець на гэты краявід тры тыдні, таму што кожны год наведваю гэты куток Беласточчыны, дзе можна забыцца пра штодзённыя клопаты і жыць у згодзе з прыродай.

Праграма Купальскай ночы была вельмі цікавая. Пачалося ад выступленняў калектываў: „Родыны" з Дубяжына, гуртоў з Краснага Сяла, Дабрывады, Чаромхі і Вулькі-Тэраховускай. Народныя артысты спявалі песні пра Купалле і жыццё ў вёсцы. Мілым сюрпрызам для публікі было выступленне дзіцячага калектыву з Луцка, што на Украіне. Яны прадставілі жартоўныя сцэнкі, у якіх выступаў госць вечара — Купала. Усе выступленні вельмі мне падабаліся, а асабліва дзіцячы гурт „Ранак" з Бельска-Падляшскага і маладзёжны хор з Беластока. Названыя калектывы маюць таленавітых спевакоў. У дзяўчат з бельскага „Ранка" цудоўныя галасы і дасканалы музычны слых. Ва ўкраінскіх народных уборах і прычосцы (заплеценыя косы) выглядалі як сапраўдныя украінкі. Свой талент выявіў і хор з Беластока. Атракцыёнам праграмы быў паказ феерверкаў. Неба заззяла тысяччу каляровых зорак. Гэта трэба проста пабачыць!

Цудоўная ноч Купалля была сапраўды чароўнай.

**Жанэта Роля**



*„Купалінкі" з Беластока — дзеткі з беларускага прадшколля і іх настаўніца Альжбета Бурачэўская.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Антон Луцкевіч

Антон Луцкевіч нарадзіўся ў 1884 г. у Шаўляй, што на Віленшчыне. Быў малодшым братам вядомага беларускага палітычнага, грамадскага і культурнага дзеяча Івана Луцкевіча. Пасля заканчэння Мінскай гімназіі вучыўся на факультэце прыродазнаўства Пецярбургскага універсітэта.

Яшчэ будучы гімназістам разам з братам і Казімірам Кастравіцкім стварылі круг беларускай асветы. У 1902 г. выдалі яны зборнік твораў Янкі Лучыны „Вязанка" і адозву да беларусаў з заклікам, каб вучылі сваіх дзяцей на роднай мове. Рыхтаваліся выдаваць часопіс „Свабода", але першы нумар быў поўнасцю канфіскаваны царскай паліцыяй.

Антон Луцкевіч быў адным з заснавальнікаў Беларускай сацыялістычнай грамады. За беларускую патрыятычную дзейнасць арыштавалі яго ўпершыню расейскія ўлады ў 1904 г. З 1906 г. Антон Луцкевіч стаў адным з галоўных арганізатараў беларускага выдавецкага руху, які стаў пачаткам працэсу вялікага нацыянальнага адраджэння.

Падчас першай сусветнай вайны Луцкевіч прапагандаваў ідэю стварэння незалежнай беларускай дзяржавы. У 1918 г. пра сваю дзяржаву думала ўжо большасць беларускіх палітыкаў. 25 сакавіка прадстаўнікі беларускага народа абвясцілі незалежнасць сваё дзяржавы — Беларускай Народнай Рэспублікі. Прэм'ер-міністрам быў абраны Антон Луцкевіч.

У выніку польска-расейскай вайны Беларусь патраціла маладую незалежнасць. Акупанты падзялілі Бацькаўшчыну. Антон Луцкевіч астаўся ў Польшчы, працаваў настаўнікам. У 1922 г. быў абраны паслом у Сейм ІІ Рэчы Паспалітай. Луцкевіч не змірыўся з акупацыяй Беларусі, працаваў для народа з надзеяй, што дачакаецца дня сапраўднай незалежнасці Бацькаўшчыны. У студзені 1927 г. за палітычную дзейнасць быў арыштаваны польскай паліцыяй.

У верасні 1939 г. у Вільню, дзе жыў Антон Луцкевіч, прыйшла Чырвоная Армія. Саветам быў ён вядомы як прыхільнік самастойнай беларускай дзяржаўнасці. 30 верасня Луцкевіч быў арыштаваны. Невядома дзе і калі загінуў. Невядома таксама, дзе знаходзіцца магіла гэтага вялікага беларускага патрыёта.

# Чаму ў вярблюда горб

**Казка Рэдзьярда Кіплінга**

Вось яшчэ адна казка, і ў ёй я хачу расказаць, адкуль узяўся на спіне ў Вярблюда такі вялікі горб.

У самыя першыя гады, даўнымдаўно, уся зямля была новенькая, толькі што зробленая. Усе жывёлы з першага ж дня пачалі служыць Чалавеку. Тым часам у Жахліва-Пануфай Пустыні жыў Жахліва-Пануры Вярблюд, якому і ў галаву не прыходзіла брацца за работу. Ён еў сухія калючкі, цвёрдыя галінкі, тамарыск, цярноўнік і кару, але працаваць ні за што не хацеў — такі быў бессаромны нахабнік і гультай! Усе саромілі яго, а ён у адказ казаў:

— Гррб!

Кіне сваё „Гррб" — і больш ні слова. Неяк, у панядзелак раніцай, прыйшоў да яго Конь. На спіне ў Каня было сядло, а ў зубах цуглі.

— Гэй, Вярблюд! — сказаў Конь. — Бярыся ты, нарэшце, хадзіць у Чалавека пад сядлом, як гэта робім мы, коні.

— Гррб! — сказаў Вярблюд.

Неўзабаве пасля гэтага да Вярблюда прыбег Сабака. У зубах у яго была палка. Ён прыбег і сказаў:

— Вярблюд, ай, Вярблюд! Ідзі да Чалавека і навучыся, як мы, дапамагаць яму на паляванні.

— Гррб! — адказаў Вярблюд, а Сабака пайшоў да Чалавека і расказаў яму ўсё.

У хуткім часе пасля гэтага прыйшоў да Вярблюда Вол. На шыі ў Вала было ярмо. Ён сказаў:

— Гэй, Вярблюд! Ідзі да Чалавека і ары зямлю, як мы.

— Гррб! — сказаў Вярблюд, а Вол пайшоў да Чалавека і расказаў яму пра ўсё.

Увечары Чалавек паклікаў Каня, Сабаку, Вала і сказаў:

— Конь, Сабака і Вол, мне вельмі вас шкада (бо свет быў зусім яшчэ новенькі!), але звер, які крычыць „Гррб" у той Пустыні, не здатны ні да якой работы, а то б ён даўно ўжо прыйшоў да мяне. Няхай сабе жыве ўсваёй Пустыні, я не крану яго, але вам прыйдзецца працаваць удвая больш — і за сябе, і за яго.

Тады Конь, Сабака і Вол вельмі раззлаваліся (бо свет быў яшчэ вельмі новы!). Яны падаліся да самага краю Пустыні і пачалі раіцца, што далей рабіць.

Але тут падышоў Вярблюд — нахабны гультай. Ён ляніва жаваў сухую траву і пачаў насміхацца над імі. Потым ён сказаў сваё „Гррб!" і паваліўся прэч.

У гэты час імчаў праз Пустыню ў хмары пылу чарадзей Джын.

— Уладар Усіх Пустыняў! — закрычаў яму Конь. — Ці можна каму-небудзь біць бібікі, калі свет яшчэ зусім новы і ў ім так шмат працы?

— Нікому, — адказаў Джын.

— А ў Вярблюда і думкі такой няма, каб брацца за справу. Што б мы яму не казалі, ён заўсёды адказваў „Гррб!"

— Гэта яму так не мінецца! — паабяцаў Джын.

Ён загарнуўся ў свой плашч з пылу і паімчаў у Пустыню. Там ён знайшоў Вярблюда. Той стаяў і любаваўся на сваё адлюстраванне ў лужыне — несумленны гультай.

— Мой хітры і даўганогі дружа, — звярнуўся да Вярблюда Джын. — Я чую, што ты не хочаш працаваць у нашым новым-навюсенькім свеце.

— Гррб! — адказаў Вярблюд.

Джын сеў на пясок і пачаў чараваць, адначасова дакараючы Вярблюда:

— Конь, Сабака і Вол пачалі працаваць з панядзелка з самай раніцы і працавалі куды больш, чым трэба, з-за таго, што ты такі несумленны і гультай, — сказаў Джын.

— Гррб! — адказаў Вярблюд.

І раптам спіна Вярблюда, якой ён так ганарыўся заўсёды, пачала пухнуць. Яна пухла, пухла і неўзабаве там вырас вялікі цвёрды горб.

— Гэта той самы „Гррб", пра які ты ўвесь час толькі і паўтараеш, — сказаў Джын. — Ён вырас у цябе з-за таго, што ты — нахабнік і гультай. Работа пачалася ў панядзелак, сёння чацвер, а ты ўсе тры дні біў бібікі. Але цяпер ты можаш працаваць тры дні без усялякай яды, бо будзеш есці свой уласны „Гррб". Жыў жа ты тры дні адным толькі „Гррб!"

І пайшоў Вярблюд са сваім гарбом да Каня, Сабакі і Вала. Ён і да гэтага часу носіць на спіне горб (мы ўжо не кажам „Гррб!", мы кажам „горб", каб не абразіць Вярблюда). І да гэтага часу ён не можа нагнаць тых трох дзён, што прагуляў напачатку, калі наша зямля была яшчэ зусім-зусім новаю.

*Пераклаў з англійскай мовы*
*Валеры Бабей*



*Дзеці з Дубяжына спадарожнічалі Сустрэчам „Зоркі".* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Было жніва

Атрымаў я задачу: пад жніва напісаць пра жніва; трэба быць прарокам каб пісаць пра тое што будзе. Ну, але загад ёсць, і трэба з тае мухі зрабіць нейкага слана, і нешта напісаць. Збожжа ж ужо расце, падумаў я, і гаспадары павінны ўжо нейкае меркаванне наконт жніва мець; трэба толькі такіх знайсці. Будучы вось нядаўна ў Старой Луплянцы даведаўся я, што з тамашніх ніхто ўжо такою дзейнасцю не займаецца, а іх палі абсяваюць земляробы з Адрынок і Юшкавага Груда, тады і падумаў я, што менавіта яны то пра сёлетняе жніва дадуць мне поўную зводку навін; зручней мне было падацца вось у гэты апошні. Зайшоў я на пошту і пытаю спярша пра солтыса. Пан, які сядзеў у вакенцы, нат не ўмеў сказаць, дзе такі жыве. З'явіліся яшчэ два паштавікі і я ўжо давай распытваць іх пра таго, што ў Луплянцы сее. Яны зараз зрабілі вывад, што гэта будзе *Зютэк*. Сказалі як даехаць на яго хутар і я падаўся тым маршрутам. Гаспадар, кругленькі і мілавідны, з усмешкай паінфармаваў, што ён у Луплянцы нічога не сее, толькі ў сябе, а патрэбнае збожжа дакупляе ў *калхозе*. Які ж тут будзе цяпер *калхоз*, што яшчэ займаецца прадукцыяй — здзівіўся я. А ў Кандратках, адказаў гаспадар. Навошта вам столькі збожжа, цікавіўся я далей. Гаспадар адказаў, што гадуе гусей; мае дамову з альштынскім „Польдробам". На маё пытанне пра жніва і ўраджай у сябе адказаў, што яшчэ зарана пра гэта гаварыць, бо аб усім вырашыць надвор'е. А як нам, простым людзям, гадаць пра надвор'е, калі сам наш прэм'ер-міністр дае не надта дакладны яго прагноз...

Што ж больш тут пра жніва гаварыць; а напісаць жа нешта трэба! Мо хаця б пра мінуўшчыну... Пытаю тады майго суразмоўцу пра некага тут старэйшага, хто б мог пра жніва ў даўніну распавесці. А вось недалёка мае дзядзькі жывуць, — паказаў мне хату гаспадар. Падаўся я тады да тых дзядзькоў.

Міхал Казбярук нарадзіўся ў 1904-м годзе, а яго жонка Анна — у 1910-м. Даўней жалі сярпамі, а касою з каблуком Міхал Казбярук стаў касіць у 1931-м годзе; яшчэ бацюшка, а быў ім тады стары манах, паказваў, як трэба касу кляпаць. А ў Кухмах то нават *круцёлку* былі купілі, і, косячы, рэвалюцыйныя песні спявалі. Пэўна гэта пры саветах было, пытаю. Дзе там; пры санацыі яшчэ — паліцыя работу мела, бо ўсіх пра камуністаў тады распытвала. Нат мяне, кажа спадар Міхал, пыталі, але я нічога: маеш розум — нікуды не лезь, то і да цябе ніхто не прычэпіцца! Зажыналі без ніякага шуму, касілі два тыдні, але калі канчалі — стаўлялі перапёлку. Збіралі кветкі з поля, звязвалі імі тую перапёлку і ўторквалі ў яе кветкі і рабіну, каб такое, як тая рабіна, ядранае жыта расло! А каласы зрэзвалі і да ксяндза неслі свянціць, а пасля зерне з іх выцігалі рукамі і першым кідалі ў раллю, калі пачыналі новае сеяць. Калі прыбралі перапёлку, вярталіся дадому са спевамі, радаваліся, што тая цяжкая праца закончылася. Спявалі і аглядаліся, бо хлопцы цікавалі з вадою, каб жнеяў абліць. А калі хто яшчэ не выжаў свайго збожжа, дык ішлі яму памагаць. Весела было; здаецца, каб той час вярнуўся... Мы збіралі са свайго поля каля сарака коп. Стаўлялі ў дзесяткі, пасля збожжа звозілі ў клуню. Малацілі *шырокамалоткай*, цяжкая гэта праца была; пыл. А пярэвяслаў колькі трэба было нарабіць!

Сеялі мы жыта і авёс. Аднойчы пасеялі пшаніцу, добрая вырасла. І на другі год таксама, але вырасла толькі на слабым полі, а на лепшым не; а пасля то ўжо ўсюды слаба расла. Калі збожжа вылягала, выкошвалі або выжыналі яго, а калі ўжо пачалі жаць машынамі, таксама стараліся выкошваць, бо калі хто выпасваў кароў, яны або выядалі, або ўтоптвалі. І перапёлку перасталі стаўляць, калі сталі касіць машынамі. Жалі толькі свае, рэдка калі каго наймалі, а калі наймалі жаць, плацілі да вайны па дзве залатоўкі ў дзень. А дзень быў ад сыходу расы да вечара. За капанне бульбы плацілі толькі залатоўку. Калісь добра было — не было тае *стонкі*. А цяпер то і бульбы няма як садзіць з-за яе: трэба *прыскаць, апрысківачы* ў Міхалове ёсць, але мы на машынах не знаемся, то і не купілі. Ды і не аплачваецца цяпер садзіць ці сеяць, бо за работу больш заплаціш, чым за тыя бульбу ці авёс возьмеш.

* * *

Вакол Юшкавага Груда штораз больш аблогу. Каля тайніцкага аўтобуснага прыпынку толькі пустазелле, якое на нашай „Усходняй сцяне" „Валэнсавым збожжам" называюць, красуецца, а сосны на ўзгорку ўглядаюцца на шашу, ці не прыедзе хто ёю і іх не забярэ ў нейкую гарадскую клетку; як вясковыя паненкі. У Багнюках, у колішняй эскаэраўскай базе, слядоў жыцця — што на Марсе; абрабляць зямлю пад пустазелле не трэба — самое вырасце. У Бандарах стаяць бетонныя клеткі, у якія мусам перасадзілі старэйшых людзей, адрываючы іх ад іхніх каранёў. Колькі іх, з тугі па сабою выбудаваных хатах і клунях ды гадамі абрабляемых збожжавых палетках — цяпер залітых вадою, — па выгадаваных сабою каровах ці курачках, заўчасна пакінулі гэты свет, не могучы прывыкнуць да прымушанай бяздзейнасці. У нас будавалі плаціну, а дзесь далёка, дзе, як сёння гэта відаць, былі такія аб'екты бадай больш патрэбныя — будавалі „Другую Польшчу". У нас асталася „Польшча Б", якая зарастае дзірваном. А ксяндзу прыйдзецца свянціць неўзабаве хіба толькі „Валэнсава збожжа".

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Аб Старым Корніне

**Царква пачатку XVII стагоддзя ў Старым Корніне Гайнаўскай гміны стагоддзе пазней славілася цудоўнай іконай Божай Маці, пры якой здзяйсняліся шматлікія аздараўленні. Аб гісторыі вёскі і царквы расказвае 73-гадовы Мікалай ШЭШКА, які сорак гадоў выконваў абавязкі стоража і царкоўнага званара.**

— Калісьці была тут непраходная пушча, а наша вёска знаходзілася два з паловай кіламетра ад сённяшняга яе месцазнаходжання, пад Тафілаўцамі, і называлася Карнянкай. Цяпер так называецца толькі адно ўрочышча. Паданне і дакументы сведчаць, што даўно-даўно таму пастухам на полі паказалася ікона Божай Маці. Пасля гэтага цудоўнага з'яўлення людзі сталі высякаць лес, каб на гэтым месцы ўзвесці царкоўку ў гонар Багамаці. Гэтая старажытная царкоўка потым аказалася зацеснай і людзі вырашылі пабудаваць новы храм. Старую царкоўку прадалі ў Рыбалы.

У захаваных дакументах царква св. Анны ўпамінаецца толькі ў 1632 годзе. Калі побач царквы пабудавалі плябанію, у якой пасяліўся бацюшка, людзі з Карнянкі сталі перасяляцца сюды і ў выніку заснавалася сённяшняя вёска Стары Корнін. З часам царква стала ўрастаць у зямлю і ў 1870 годзе прыхаджане вырашылі правесці капітальны рамонт храма. У яго ходзе былі аднолены фундамент, зменены падрубы і ўзмоцнены сцены. Царкву, пабудаваную на плане крыжа, паўторна высвяцілі ў 1882 годзе. Калі царква св. Анны не магла заспакоіць патрэб вернікаў, некалькі гадоў пасля рамонту была ўзведзена побач меншая царква св. Міхала Архангела. Прыхадскім святам, які адзначаецца тут ад вякоў, застаецца дзень св. Анны (Ганны, як кажуць у народзе — 7 жніўня).

Недзе ў пачатку XIX стагоддзя цераз Стары Корнін гналі казакі закаваных у кайданы і прыгавораных на смерць вязняў. Адзін з нешчаслівых крычаў аб сваёй нявіннасці і прасіўся пусціць яго ў царкву памаліцца. Казакі згадзіліся. Калі зняволены горача маліўся, кайданы самі зваліліся з ягоных ног. Усе вельмі здзівіліся і перапалохаліся, а казакі даравалі свабоду вязню, прызнаўшы боскі знак доказам нявіннасці гэтага чалавека. Да сённяшняга дня гэтыя кайданы вісяць у нашай царкве пад харамі. Доўгі час у нашу царкву прыязджалі хворыя прасіць перад цудадзейнай іконай Божай Маці аздараўлення. Многія храмыя пераставалі тут жа кульгаць і адыходзілі на сваіх нагах, пакідаючы мыліцы, кульбакі і палкі ў царкве.

У 1915 годзе праваслаўныя эвакуіраваліся ў глыб Расіі. Мясцовы настаяцель а. Іпаліт Кадлубоўскі хацеў узяць з сабой у бежанства ікону Божай Маці. Старыя людзі расказвалі, што толькі за трэцім разам удалося яму выняць цудадзейную ікону з ківота. Бацюшка з іконай падаўся ў Арол, аднак адтуль ні святар, ні ікона не вярнуліся.

Я сам сорак гадоў быў сторажам і званаром у нашай царкве і пяць хлопцаў, якія пры мне вучыліся прыслугоўваць бацюшку, самі сталі святарамі, у тым ліку і мой сын Леанід, які сёння служыць у Гайнаўцы.

**Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*



*Старакорнінскія цэрквы.*

# Блудная дачка

Варку Віпшу з-пад Саколкі чамусьці бацькі не любілі. Гэта яна заўсёды адчувала, і бышы дзеўчынкай, і дзеўкай, і ўсё сталае жыццё. Здавалася, што асабліва недалюблівае яе матуля, бо для меншай дачкі, Іркі, заўсёды мела яна пяшчоту, ласунак і добрае слова, а Варку быццам і не бачыла, калі не біла. Таксама і бацька.

— Можа, не была я ягоным дзіцём? — гэта турбуе і сёння пані Варвару, ужо шасцідзесяцігадовую пенсіянерку. — А, можа, мама мусіла праз мяне замуж выходзіць? Бо хіба таты не кахала яна. Быў ён гаспадар дбайлівы, добры, але і сям'ю, і рэчы, і жывіну трактаваў аднолькава, — дбаў, каб было ўсё накормлена, напоена, каб было ўсё на сваім месцы і не мяшала. Хто робіць, той патрэбны. Дарам не есць, карысць дае. Я, як толькі кончыла сёмы клас, папрасіла ў бацькоў, каб пусцілі мяне далей вучыцца. Бо навука мне надта добра давалася. А тата тады сказаў, што пара мне ісці на свой хлеб, бо дарам аддаваць грошай не будзе. Прыходзіў да нас дадому і настаўнік, і дырэктар школы, але тата быў няўмольны. Спакавала я сваю сукенку, паліто, падушачку ды паехала ў Беласток.

Варцы пашанцавала — узялі яе на працу ў краме, спачатку прыбіральшчыцай. Наняла пакойчык у маленькай хатачцы на Баярах, за дапамогу ў апецы. Запісалася ў вечаровы ліцэй. Праз год перавялі яе на прадаўшчыцу, бо добра кеміла ў матэматыцы ды сумленная была. У ліцэі мела адны пяцёркі. Ды гэта, на жаль, не цешыла бацькоў. У чэрвені, пасля першага класа Варка паявілася на родным падворку, у новай сукенцы, з выдатным школьным пасведчаннем у кішэні. Бацька выйшаў на ганак. „Ты чаго прыехала, дармаедка?! Нажэрціся?!" — гыркнуў. Дзяўчына павярнула назад.

Слала пісьмы дадому, але не чакала ўжо адказу. Паведамляла маці, як ідуць справы. Сястра наведала яе пару разоў у Беластоку, — купляла сабе новую вопратку, хвалілася поспехам сярод кавалераў і тым, што бацькі пасылаюць яе вучыцца на краўчыху. Але доўга Ірка не пабыла ў тэхнікуме, праз паўгода справілі ёй вяселле з багатым хлопцам.

Варка знайшла сабе кавалера бышы ўжо ў студыуме. Тады ўжо працавала бухгалтаркай. Хлопец быў таксіст з „Фі-

 

Якія мы людзі

# Падэшвы

Здарылася гэта тады, калі была першая мода на тоўстыя падэшвы. Гадоў трыццаць таму. Даўнавата, адным словам, але той абразок бачу, як на далоні, і сёння.

Ага, праўда, памятаецца мне і яшчэ ранейшая хваля гэтай моды: недзе ў пачатку пяцідзесятых гадоў. Была я тады зусім маленькай дзяўчынкай і вельмі здзівілася, калі ўбачыла цётку Ірэну са Львова ў туфлях на таўшчэзнай падэшве і абцасах. Цётка ўсміхнулася і сказала: „Усё, што моднае — прыгожае". Яе словы ўрэзаліся ў маю памяць на ўсё жыццё.

Ды толькі вось пытанне: дзе, калі і як гэтую моду стасаваць? Ад трыццаці гадоў я не навіджу тоўстых падэшваў і высокіх абцасаў у афіцыянтак. Вядома, у часе іх працы.

* * *

Гадоў трыццаць таму назад да нас у госці прыехалі немцы. Немец ёсць немец: усходні ён быў ці заходні. Адзінай атракцыяй для нашых гасцей у Польшчы было не што іншае, як „Wolfschanze" ці, як гэта ў нас называюць, „воўчая бярлога" або „воўчыя акопы" каля Кентшына, дзе ў часе II сусветнай вайны знаходзіўся штаб Гітлера, і дзе адбыўся замах на яго асобу.

Ну, дык ездзем у тую „бярлогу" разам з немцамі. Не маючы ў той час свайго самахода, я нават ... прабавала выпрасіць рэдакцыйны, каб іх туды завезці. Немцы — народ акуратны, і нашыя госці надта баяліся, каб не знішчыць сваёй машыны— як уяўлялася ім — на нашых бездарожжах.

Рэдакцыйны самаход не далі, давялося ехаць на машыне гасцей. Не, не! Машыне, дзякуй Богу, нічога не сталася. Дарогі, што вялі да „воўчай ямы", былі „экстра", бо і турыстаў прыязджала сюды нямала. Аднак жа пасля агляду той „ямы" трэба было праехаць праз Кентшын, дзе мы збіраліся паабедаць. І тут было ўжо значна горш. На няроўным асфальце пасля нядаўняга дажджу сталі вялікія лужыны. Немец вёў машыну асцярожна, стараючыся абмінаць выбоіны і лужыны.

Рэстаран быў ужо зусім недалёка, калі з супрацьлеглага боку падляцеў да нас з вялікай хуткасцю польскі „Фіат" і абдаў нас цэлым фантанам бруднай вады з лужыны.

Мяне агарнуў жах: уся белая куртачка нашага госця, які меў адчыненае акенца самахода, умомант ператварылася ў нешта шэра-бурае невядомага паходжання, а па твары немца цяклі брудныя, балоцістыя ручаі.

Я ж кажу, немцы народ акуратны. Са стаічным спакоем наш госць выйшаў з самахода і, ні слова не гаворачы, зняў з сябе куртку, якая толькі што была белай, і пачаў абціраць хустачкай гразь са свайго твару. Жонка без слова дапамагала яму. Не чуваць было ані слова абурэння, але па іх мінах відаць было, што такі „нумар" таго шалёнага шафёра ў іх, у Германіі, так не прайшоў бы.

Немец пераапрануўся ў чыстую, цяпер блакітную, куртку, і мы паехалі далей. Без ніводнага слова, і гэты факт для мяне быў крыху захапляючы, крыху зласвесны. Ці немец быў вышэй таго, каб гаварыць пра такую дробязь, ці быў настолькі злосны, што лепш было маўчаць? Ясна было адно: ён меў ужо свой погляд на тутэйшых людзей.

У рэстаране давялося чакаць даволі доўга. Наш столік быў вельмі галодны, але адначасова цярплівы. Па зале снаваліся туды і сюды даўганогія афіцянткі ў міні-спадніцах і ў туфлях на таўшчэзных падэшвах і абцасах. Гэтыя атрыбуты, праўда, яшчэ падоўжвалі ногі афіцыянтак, але ўсім нам у той момант гэта было абыякавае: хацелася есці! Мы, аднак, спакойна чакалі.

Паколькі я вельмі люблю аглядаць прыгажосць, дык назірала за афіцыянткамі: як грацыёзна калыхалі яны сваімі бёдрамі, з вышыні — у тых кандалах — спаглядаючы на галодных нешчасліўцаў, што чакалі заказаных страў. Ім не было куды спяшацца, а іх абутак не дазваляў развіваць большую хуткасць. Замест руплівых гаспадынь я бачыла ў іх нейкіх манекеншчыц на паказе моды. Цікава, ці не баяцца яны, што можа падвярнуцца нага, калі ў руках будзе поўны паднос?..

О-о-о! Ідзе да нас! Дальбог, нясе нам боршч. Мы ўсе схамянуліся. І я адарвалася ад сузірання аднае прыгажосці. У роце пацякла слінка.

Дзяўчына з чатырма талеркамі баршчу на падносе неяк дакалыхалася да нашага століка. Толькі збіралася прыстроіцца да нас неяк зручней, затрымаўшыся каля немца, як неспадзявана падвярнулася ў яе нага і ўсе чатыры талеркі баршчу паляцелі з вышыні афіцыянтчыных рук на галаву і чыстую куртку немца.

* * *

Пасля гэтага здарэння мяне доўгі час мучыла пытанне: што больш запамяталі нашы госці, тую вольфшанцу ці тоўстыя падэшвы афіцыянткі? І што падумалі немцы пра тутэйшых?

Але пасля я прыйшла да вываду, што гэта Бог іх пакараў за тую асаблівую цікаўнасць да гітлераўскіх дзеяў: ці ж больш няма чаго аглядаць няхай сабе і не ў такой багатай Польшчы.

**Ада Чачуга**

# Нашы карані

**СV. Помста**

У 1620 годзе, вяртаючыся з Масквы, праваслаўны патрыярх іерусалімскі Феафан, па просьбе праваслаўных Вялікага княства Літоўскага, у таямніцы пасвяціў у мітрапаліта кіеўскага і ўсяе Русі Іова Барэцкага і разам з ім шэсць епіскапаў.

Гэтым Яго Святасць адбудаваў знішточаную на беларускіх і ўкраінскі землях уніяй 1596 года вярхоўную ўладу Праваслаўнае Царквы. Патрыярх гэтым самым адрадзіў да кананічнага жыцця нашу Царкву. Кароль і уніяцкая іерархія даведаліся пра гэта са спазненнем і не змаглі не дапусціць ці іншым чынам перашкодзіць такому надзвычай важнаму акту. Затое яны не хацелі прызнаць і з усіх сіл намагаліся кампраметаваць новых праваслаўных архірэяў, не дазволіць ім ажыццяўляць іхнія заданні. Дзеля гэтага кароль аб'явіў патрыярха Феафана турэцкім, варожым Рэчы Паспалітай шпіёнам, а пастаўленых ім праваслаўных архірэяў злачынцамі, турэцкімі агентамі і дзяржаўнымі здраднікамі. Па дамаганнях уніяцкага мітрапаліта Руцкага кароль загадаў канцлеру Льву Сапегу апавясціць універсал з загадам злавіць, арыштаваць і пакараць новую праваслаўную іерархію. А ўсё гэта пагражала непазбежным смяротным прысудам.

Каб пазбегчы зняволення і смерці, новыя епіскапы вымушаны былі ў вялікай таямніцы хавацца па розных адлеглых манастырах і глухіх скітах, а мітрапаліт Іоў Барэцкі прабываў не на сваёй кафедры ў Наваградку, але бязвыезна жыў у Свята-Міхайлаўскім манастыры ў Кіеве пад моцнай аховай непадуладных каралю казакаў. Уніяты і кароль баяліся чапаць казакаў, таму сваю злосць спаганялі на безабаронным праваслаўным насельніцтве. Першымі ахвярамі сталі манахі і духавенства Свята-Духавага манастыра ў Вільні і віленскае мяшчанства. Кароль выдаў загад арыштоўваць і караць усіх прыхільнікаў новай праваслаўнай іерархіі. На праваслаўным Вялікім Тыдні 1621 года пачаліся масавыя арышты і расправы над віленцамі. Іх катавалі, пазбаўлялі пасадаў, крамаў, варштатаў, трымалі ў лёхах. Натоўп уніятаў напаў на Свята-Духаў манастыр і намагаўся яго спаліць. Мітрапаліт Іоў з іншымі епіскапамі накіравалі каралю пратэст. З яго даведваемся, што не толькі ў Вільні, але і па ўсім Вялікім княстве Літоўскім учыняліся крывавыя расправы над праваслаўнымі: *У Магілёве, Мінску і Оршы*, — чытаем у пратэсце, — *захоплены цэрквы, у Пярэмышлі* (сённяшні Пшэмысль у Польшчы) *у турме забіта 24 мяшчан, у Яраслаўлі* (таксама сённяшняя Польшча), *Крамянцы, Гродне і Пінску захоплены цэрквы, у Брэсце* (ігумена) *Дарафея з манахамі ўкінулі ў калодзеж, у Красным Ставе* (сённяшняя Польшча) *уварваліся ў мураваную царкву і многіх з тых, што маліліся ў ёй, пазабівалі, тое ж самае ўчынілі ў Сокале, Бельску* (цяперашні Бельск-Падляшскі на Беласточчыне) *і Бусне, дарослых без пакаяння, а дзяцей без хрышчэння забівалі.*

З асаблівай раз'юшанасцю уніяты, пры ўсебаковай падтрымцы каралеўскіх чыноўнікаў і войска, атакавалі праваслаўных пасля забойства Іасафата Кунцэвіча ў Віцебску ў 1623 годзе.

Аднак усе гэтыя крывавыя расправы, праследаванні, фальшывыя абвінавачванні праваслаўных запалохвалі толькі слабых і няпэўных, а моцных і стойкіх яшчэ больш гартавалі ў змаганні за сваю веру праваслаўную, падымалі ранг і ўмацоўвалі аўтарытэт новых іерархаў, гуртавалі вакол іх людзей і мабілізавалі да актыўнай дзейнасці.

**Мікола Гайдук**

атам", прыгажун, нічога, што католік, бо гатовы быў браць шлюб нават у царкве. Але Варка пайшла за ім у касцёл, бо ж гэта Юркавы бацькі зрабілі ім вяселле. Ні сястра (бо якраз нарадзіла), ні бацькі не прыехалі, ано цёця Зося з Сухаволі пабыла гадзіну на банкеце.

Павезла Варка сваіх двух сыноў у вёску, пахваліцца. Раз. Дзеткам было крыўдна — баба Надзя дала цётчынай Алі вялікі шакалад, а ім батончык на дваіх! Нават не прытуліла, не пагладзіла па галоўках. А дзед Адам песціў Алечку, гушкаў, а да ўнукаў словам не азваўся. Не падабаўся Надзі і зяць, хоць ёй з ім размова больш клеілася, чым з дачкою. Калі Варка з ім развялася, Надзя паківала галавою: „А хто ж з табою вытрымаў бы, бэмба ты! Не ўмела яму гадзіць, то знайшоў сабе іншую!"

Юрка на працягу семнаццаці гадоў не мог ніяк справіцца з аліментамі. За той час паспеў дарабіцца яшчэ чацвёркі малечаў з рознымі панямі.

— І што яны ў ім бачылі? — дзівіцца сёння пані Варвара. — Ну, у свой час быў ён відны хлопец, гжэчны. Было на што прынамсі паглядзець, абы толькі рот не раскрыў. Але, папраўдзе, то неахайны, нудны ён бамбіза. Каб я з ім была, то нічога не дарабілася б. А так у хаце хоць спакой быў. А наймалодшай вось Юркавай каханцы дваццаць пяць гадоў, сына яму нарадзіла. Жыць з ім не хоча, ано каб грошы ёй плаціў...

Нічога Варка са свае хаты не ўзяла за ўсё жыццё. Толькі родную матку. Перадала была Надзя пасля смерці Адама малодшай дачцэ гаспадарку, а тая адправіла яе ў „дом старцаў". З плачам паявілася маці ў Варчынай кватэры, да таго ж пад руку са сваёй сястрой Зосяй, таксама бяздомнай. Давялося Варцы ўзяць іх пад свой дах. Цяпер жа жыла адна, з сабачкам толькі — аднаго сына адправіла ў Амерыку, другога ажаніла з беластачанкаю. Ужо пенсіянерка, але ўсё пры рабоце — дасведчаная бухгалтарка з камп'ютэрам заўсёды мае цану. Ні словам не сказала Варка маці пра былое.

Першая памерла ціхая бабулька Зося. Суседзі заўважылі, што сабачку выгульвае цяпер адна маўклівая, сухенькая, сутулая старушачка. А пасля і яна перастала выходзіць з блёка. Адмовілася есці. „Атруціць ты мяне хочаш, Варка. Я ведаю. Ты мяне ненавідзіш, хоць нічога не кажаш! Не буду я есці нічога!", — упіралася. Бегала да суседзяў, каб купілі ёй рыцынавы алей, — апаражніцца ад атруты. Пасля сашчаміла бяззубы рот і не брала ні кроплі, ні крышынкі. Стагнала: „Ты мяне не любіш, Варка! Я гэта ведаю!" У Харошчы спрабавалі карміць яе цераз кропельніцу. Пахавала Варка маці побач ейнае сястры, паставіла ім помнікі на магілках.

Цяпер Варка купіла новую кватэру. У старую пасяліла сына. Мела за што. Спадчыну атрымала па Ірцы, па адзінай сваёй сястры. Ірчын муж з дачкою і зяцем разбіліся пад Кузніцай. У Алі дзяцей не было, з мужам была развялася. І ўсё — і змеханізаваная гаспадарка, і заходні аўтамабіль, і дом мураваны са ўсімі стадоламі-хлявамі — Варцы засталося. Прадала яна спадчыну хутка, каб і не глядзець на ўсё гэта.

А цяпер ізноў муж былы, Юрка, дахаты да яе просіцца. Пастарэў, прыхварэў. Няма куды яму дзецца. Сыны за тое, каб маці дала шанц старому, каб даравала. Хай хоць унукі маюць дзеда!

**Міра Лукша**

*(Прозвішча гераіні зменена.)*



 

# Незвычайны юбілей

Кастусю і Хведару Раманчукам з Кузавы больш за семдзесят гадоў. Абодва яны лічацца пенсіянерамі-чыгуначнікамі. Першы з іх працаваў на мясцовым шпалапрапітачным заводзе рабочым, другі — машыністам на паравозным дэпо ў Чаромсе. Іхнія жонкі, Марфа і Надзея, займаліся гаспадаркай. Зараз і яны лічацца пенсіянеркамі.

Гэтыя шлюбныя пары пражылі разам па пяцьдзесят гадоў і зараз адзначаюць свой юбілей.

Памяталі аб тым самі юбіляры з сем'ямі. Не забыліся і прадстаўнікі мясцовага самаўрада.

У нядзелю, 6 ліпеня г.г. Гмінная ўправа арганізавала ў ГОКу ў Чаромсе сустрэчу для шлюбных пар, якія сёлета адзначаюць юбілей 50-годдзя з дня шлюбу. Апрача Раманчукоў з Кузавы, было запрошаных іншых васемнаццаць шлюбных пар з тэрыторыі гміны. Дзевятнаццаць з іх удзельнічала ў гэтым цікавым мерапрыемстве.

Як заўсёды бывае пры такіх нагодах, пры чарцы шампанскага і застаўленых ласункамі сталах былі тосты, успаміны і пажаданні. Ад імя прэзідэнта Рэчы Паспалітай паважаных юбіляраў віншаваў войт Чаромхаўскай гміны Міхась Врублеўскі. Усім ім уручыў ён адпаведныя дыпломы і медалі, жадаючы многіх гадоў жыцця і моцнага здароўя.

Трэба адзначыць, што працаўнікі Гміннай управы, арганізуючы гэты скромны пачастунак, стварылі такую мілую атмасферу ў час сустрэчы, што гэтае мерапрыемства надоўга застанецца ў памяці нашым юбілярам.

**Уладзімір Сідарук**

# Урэшце прыгадалі

Калі ў 1990 годзе загадчыка ЗАГСа ў Орлі Зінаіду Якімовіч адаслалі на пенсію, яе абавязкі стаў па сумяшчальніцтву выконваць войт гміны. Відаць, абавязкаў было ў яго многа, бо на працягу шасці гадоў ніхто з гмінных чыноўнікаў не памятаў аб прысваенні жыхарам гміны медалёў „Za długoletnie pożycie małżeńskie". Пасля публікацыі крытычных артыкулаў і ў выніку абурэння юбіляраў Гмінная ўправа зноў вярнулася да традыцыі ўшаноўваць 50-гадовыя шлюбныя юбілеі.

13 ліпеня ў залах ЗАГСа адбылася ўрачыстасць прысваення медалёў шлюбным парам, якія супольна пражылі паўвека, а ў суседняй святліцы юбіляраў чакаў сціплы пачастунак — піроржнае і шампанскае. Медалі атрымалі 28 пар, а ўручыў іх ад імя прэзідэнта РП войт гміны Міхал Іванчук, які падзякаваў ардэнаносцам за вялікі ўклад у грамадска-гаспадарчае развіццё гміны і за выхаванне дзяцей. Павіншавала юбіляраў таксама загадчыца ЗАГСа Лідзія Кубаеўская, якая пажадала ім моцнага здароўя і доўгіх гадоў жыцця.

На жаль, чыноўнікі не перапрасілі за недагляд з іх боку ў мінулым і не высветлілі, ці тыя пары, якія павінны былі ўжо атрымаць медалі, дачакаюцца іх у будучым. Цікава, ці гэтая традыцыя зноў не абарвецца.

**Міхал Мінцэвіч**

# З майго панадворка

13 чэрвеня г.г. прыйшлося мне быць у судзе ў Беластоку. Там я сустрэў знаёмую жанчыну Т. і спытаў, што яна ў судзе робіць.

— Ах, мілы мой дзядзька! — сказала яна мне. — Падала я ў суд суседа К., які мяне абзывае на б..., быццам прастытутку якую. „Ты такая, ты сякая" — не дае з хаты выйсці! Не сцярпела я ды падала яго ў суд. Але яго тут няма. Падышоў да мяне нейкі мужчына і давай мяне ўгаворваць, каб я з К. пагадзілася, бо справы з ім не выйграю. Пытаю, чаму ён так гаворыць. А той незнаёмы адказвае мне, што К. мае паперы з Харошчы, што ён дурны, і ад доктара атрымаў *звальненне*, і на суд не прыехаў.

Так і было: той К. прыслаў у суд бальнічны ліст і справу адтэрмінавалі. Прыехала Т. дахаты і бачыць, што К. не хворы, толькі балота косіць. Ён мае суд у чымсьці, бо мае паперы з Харошчы. Значыць — дурням усё можна.

7 ліпеня справа ставілася на суд другі раз. У судзе К. расплакаўся, што ён бедны *рэнціст*. У яго вучоныя дзеці, а самае галоўнае, што ён мае сваіх і пракурораў, і адвакатаў, і суддзяў; і нікога не баіцца. Ну і прыйшлося дурной бабе пагадзіцца з ім. І праўду той яго адвакат, што ўгаворваў ісціцу, сказаў: з дурным не выйграеш.

Толькі я маю пытанне: хто тут дурнейшы — Т. ці К.? Раз падала на справу — не ўступай і не рабі дурня з сябе.

**Дзядзька Захар**

# Каму паскардзіцца?

У Чаромсе пры вуліцы Вішнёвай побач даўнейшай вузкакалейкі знаходзіцца палеткі некалькіх гаспадароў, у тым ліку і Міхася Б. з Кузавы.

У час дажджоў поле залівае вада. Даўней быў пракапаны тут роў для асушвання глебы. Паколькі ім ніхто не цікавіўся, роў зарос травою і не выконваў сваёй ролі.

Некалькі гадоў назад Міхась Б. пайшоў у гміну і папрасіў войта даць трубы для пропуску вады. Заявіў ён таксама, што хоча роў для асушкі глебы пры вузкакалейцы давесці да належнага стану.

Войт прыхільна аднёсся да справы. Прызначыў неабходны матэрыял (для пропуску вады пры сядзібе Кавальскага на вуліцы Вішнёвай). Працу выканаў Міхась Б. са сваякамі ў грамадскім парадку. Было карысна і сялянам, і гміне.

Два гады назад навозілі гравій на вуліцу Вішнёвую. Але працаўнік чаромхаўскай Гміннай управы, адказны за дарожныя справы, не дапільнаваў сваіх абавязкаў і заваліў роў пры вузкакалейцы. Змарнаваў людскую працу і грамадскую маёмасць — бетонныя трубы.

Зараз сялянскія палеткі зноў апынуліся пад вадой. Хто адказны за гэтую легкадумнасць? Каму паскардзіцца сяляне, якім змарнуюцца пасевы? Хто кампенсуе ім шкоды? Мо на гэтыя пытанні адкажа войт Чаромхаўскай гміны?

**Уладзімір Сідарук**

# Litwo, Ojczyzno nasza

Чыя з'яўляецца традыцыя гістарычнай Літвы, інакшай Вялікага княства Літоўскага (ВКЛ)? Калі чытаю эсэ Томаса Вэнцлёвы („Gazeta Wyborcza" ад 5-6 ліпеня г.г.), а тым болей „Deklarację twórców kultury Polski i Litwy" (там жа), то мая разгубленасць у тэме гістарычнай дзяржаўнасці Беларусі паглыбляецца. У дэкларацыі чытаем: „Niemała była rola kulturotwórcza Polski i Litwy w stosunku do ziem zachodnioruskich, które wówczas wchodziły (выл. М.К.) w skład obu skonfederowanych państw. Formujące się (выл. М.К.) tam narody ukraiński i białoruski wzbogacały pod wpływem kultury łacińskiej swoją nasyconą pierwiastkami grecko-bizantyjskimi rodzimą kulturę, zbliżając się do Europy". Чытаем там і здзіўляемся, што „ziemie zachodnioruskie (...) wchodziły w skład" ВКЛ. Не стваралі ВКЛ, толькі „wchodziły"?! Суседзі, як могуць, зафальшоўваюць гісторыю Беларусі пішучы, што народ беларускі (украінскі таксама) фармаваўся на заходнерускіх землях. Гэта як бы польскі фармаваўся на землях усходнегерманскіх, і так, як бы летувіскі народ не фармаваўся на жэмайцкіх землях, тады калі беларускі ўжо здавён-здаўна існаваў.

Цікава, што ў свядомасці сучасных сустракаецца думка, што народ як і дзяржаўнасць Беларусі сфармаваліся дзесьці пры Лукашэнку.

З другога боку Чэслаў Мілаш так піша ў той жа „Gazecie Wyborczej": „Z wielkim zainteresowaniem czytałem w piśmie „Lithuania" rozprawę profesora Bardacha o wpływie prawa rzymskiego na Statuty Litewskie oraz profesora Łazutki o języku Statutów i Metryki Litewskiej. Przychylam się do jego tezy, że nie był to (język białoruski — był — M. K.), jak niektórzy utrzymują, język kancelaryjny, ale także mówiony (вып. М.К.), używany przez klasy wyższe Wielkiego Księstwa Litewskiego i to nawet na Żmudzi". І далей: „formuły prawne były pisane w starym białoruskim i cyrylicą". Затым, як было? Народ беларускі фармаваўся, і ўжо пры нагодзе, каб было ўсё ўпарадкавана (беларусы любяць парадак) стварыў пісьмовую беларускую мову, штудзіраваў рымскае права, каб добра і ўмела, згодна з заходнімі стандартамі напісаць Статут і ўпарадкаваць штодзённае жыццё сваіх грамадзян?! Статут, які стаў узорам для ўсёй Еўропы, як трэба ствараць законы?!

**Міхась Куптэль**

# Помста — найгоршы прызнак чалавека

Бяда, калі чалавек мсцівы, і вялікую ці малую крыўду ён у сваім сэрцы будзе насіць да самай смерці і не даруе яе другому. Бяда, калі мсцівы просты чалавек, які можа спаліць другому дом, але і бяда, калі мсцівы вялікі палітык, як Сталін, які адправіў на той свет мільёны людзей. І ўсе сталіністы — гэта людзі без спагады і іх трэба асцерагацца як агню; яны ніколі не бачаць крыўды, прычыненай другому чалавеку, бо ім здаецца, што ім усё дазваляецца, бо яны бароняць ідэю, рэвалюцыю. Нехта калісь сказаў, што рэвалюцыю гатовяць рамантыкі, праводзяць фанатыкі, а карыстаюцца махляры. Асабліва сярод апошніх многа мсціўцаў; іх трэба мінаць здалёк і нават не перапрашаць, калі такому ў адчаі дасі адпор. Я меў ужо такую прыгоду з адным з іх і перапрасіў яго, бо лічыў, што трэба паводзіць сябе па-хрысціянску. Але гэта да яго нічуць не дайшло і лічу, што ён не быў варты тых перапросін. І калі ён чытае „Ніву", дык няхай ведае, што я тыя перапросіны забіраю назад, а ён хай забірае свае „прабачэнні". Падчас апошняй вайны многія людзі перажылі жах і гора, былі блізка смерці ў канцлагерах, многія асталіся інвалідамі — і многія з іх выбачылі сваім ворагам. Праведнаму чалавеку ніхто не ў сілах падарваць аўтарытэт, абліваючы яго памыямі. Колькі гразі вылілі камуністы на пісьменнікаў Барыса Пастарнака, Віктара Някрасава, Аляксандра Салжаніцына, Уладзіміра Букоўскага ці іншых, аднак яны не страцілі пашаны ў чытачоў. І Васіль Быкаў, які прайшоў вайну і піша пра яе праўдзіва, і пра камуністаў, якія раскулачваючы, разбівалі сялянам жорны, каб тыя з голаду ўміралі. А той літаратар, які выхваляў сталінскую сістэму, сам на сябе наліў тых памыяў: што пасееў, тое пажне. І вось сірата, выхаваны пры „зверскай" мачасе „горш як у пекле", не можа ёй дараваць нават пасля яе смерці. А лічыцца „вялікім праваслаўным". Не магу зразумець такое драконскае нянавісці.

**Мікалай Панфілюк**

# Ліст у рэдакцыю

***Паважаная рэдакцыя,***

*хачу Вам вельмі падзякаваць, а асабліва спадару Яўгену Міpановічу. Мяне прынялі на факультэт журналістыкі Варшаўскага універсітэта і думаю, што ў вялікай часціцы гэта дзякуючы Вам мне ўдалося. Канкурэнцыя была там вялікая і я нават не спадзявалася, што маю шанс зозейсніць сваю найбольшую мару. Мне цяжка словамі выказаць сваю радасць і шчасце. Я проста яшчэ не магу ў гэта паверыць і часамі пападаю ў стан самазахаплення. Экзамены ўспамінаю вельмі прыемна, а асабліва вусную частку. Камісія цікавілася маім супрацоўніцтвам з „Нівай" і самім тыднёвікам. Пыталі мяне пра беларусаў і Беларусь. Адказ на атрыманыя па жараб'ёўцы пытанні не пайшоў па маёй думцы і таму мяне вельмі здзівіла і адначасова ўцешыла ацэнка. Другі раз, толькі крыху больш, мяне паразілі вынікі. Сапраўды маё шчасце ёсць такое вялікае, што я хацела б з усімі ім падзяліцца. Яшчэ раз дзякую. Абяцаю далей пісаць у „Ніву". Мне гэта заўсёды будзе вялікай радасцю. Ужо цяпер пасылаю артыкул „Былі экзамены". Гэта мае рэфлексіі ад экзаменаў, якімі хачу падзяліцца з чытачамі „Нівы". Калі прызнаеце іх сэнсоўнымі, прашу надрукаваць.*

*Вітаю ўсю рэдакцыю „Нівы".*

*З павагай*

***Катажына Аўсяйчук***

**Ад рэдакцыі:** Тэкст „Былі экзамены" надрукуем у адным з бліжэйшых нумароў „Нівы".

# Парнасік

## Польскія беларусы

Маленькі мы народ, бы нейкая
дыяспара,
Побач вось кроўна блізкай нам
дзяржавы.
Ледзь за сцяной — гэта ж яшчэ
не гора
Ды статус наш вось нецікавы.

Аднак мы не дыяспара, бы яўрэі
ці цыганы,
Рассыпаны па свеце без зямлі.
Мы ж на сваёй зямлі, ды толькі
лёс паганы,
Ды вось літоўцы нас „прыбераглі",

Калі ўключылі нас, праўда,
па добрай волі
Хітрэйшых князяў, да Літвы,
Таму стагоддзяў з шэсць, а можа
болей,
Ды хто тады пытаў простай братвы?

Вось гэтак ад Русі былі мы
адарваны,
Ўвайшлі ў літоўскае
„вялікакняства".
У канцы Рэчы Паспалітай мы
падараваны
На самаволю „яснапанства".

А колькі войнаў йшло праз
гэтыя стагоддзі.
Не мала з іх — на землях беларускіх.
Граніцы ўсё па-рознаму праходзяць,
Таму мы раз у польскіх, раз у рускіх.

Як жа ж народ наш невялічкі мог
пярэчыць.
Падзелам гістарычным? — сіл няма.
Цяжар гісторыі лёг на нашы плечы
Ды плакаць нам не трэба задарма.

Тады адно, што застаецца нашай
нацыі:
Сваю культуру моцна берагчы,
Ды, карыстаючыся дабротамі
дэмакратыі,
Карані свае захоўваць, сцерагчы.

**Уладзімір Сабяшук**

## Бура і навальніца

Бура і навальніца —
Аднолькавая розніца:
Пралятае скора,
Як буран па моры.
Ломіць што спаткае,
Нікога не пытае.
Гэта ветру сіла,
Што прыходу не прасіла,
З сабою хмары прыносіць
І страты наносіць.
Праліўны дождж збожжа ломіць,
Каб селянін мог доўга помніць.
Збожжа вылягае як палатно
І мы павінны помніць адно:
З бурай няма жартаў —
Не абароніць нас ніякая Варта!
Падчас буры хавайся дахаты
Бедны, сярэдні, багаты.
Яна ўсіх аднолькава трактуе
І часу свайго не марнуе.
Маланка зіхаціць як хоча,
Пасля чуем, як гром грахоча.
Гэта праходзіць цудоўна,
Рамантычна, маляўніча, чароўна.
Сілы прыроды — іх не зняволім
аднак;
А каб маглі — усюды быў бы *бардак*.
І таму будзем задаволены
навальніцай —
Вольнай, нябеснай і магутнай
падарожніцай.

**Мікалай Панфілюк**

## Агароды

На свеце ёсць усялякія агароды.
Відаць, па раю Эдэм тужаць
усе народы.
Каралеўскі агарод у Англіі,
Агарод у японскім горадзе Кіото
Суцяшаюць
І як лякарства вартасць маюць.
У агародах здаровых людзей
Фантаны, тэрасы і каскады.
І мы, пенсіянеры, у сваім робім
Колькі дамо рады.

**Мар'я Пень**

## Паехаў

Паехаў Ваня ў горад,
Паехаў пагуляць,
Думаў знайсці дзяўчыну,
Каб з ёю баляваць.
Хадзіў ён па таўкучцы,
Пазаглядаў сюды-туды.
Не мог знайсці бландзінкі,
Усе там рыжыя былі.
Пайшоў у карчму, паразглядаўся,
Прысеў ужо да аднае,
Пачалі гутарку праводзіць
Падумаў: „Гэта для мяне".
— Вось ты, бландзінка дарагая, —
Пачаў ёй Ваня гаварыць, —
Давай з табою пагуляем
А можа сям'ю стварым.
Як пачалі яны гуляці,
Ракой каньякі паплылі.
Адно ў другім закахаліся.
Далей супольна ўжо жылі.
Дзянькі памалу пралятали
І прабягалі так гады.
Ваня з Гражынаю гулялі,
Не зналі гора ні бяды.
А сталі дзеці нараджацца,
Тады хапіла ім бяды:
Адно да бацюшкі хацела,
Другое — да ксяндза вясці.

**Мікалай Лук'янюк**

# Вер — не вер

Астроне! Прыснілася мне, што я абрабавала банк. Будынак банка быў без вакон, адны мураваныя сцены. Я спакойна ўвайшла туды і ўзяла сабе, колькі хацела, грошай. Нідзе не было ні душы. Ніхто мяне не бачыў. Я нават не хвалявалася, калі брала гэтыя грошы. Быццам гэта былі мае грошы.

А пасля я пайшла, як заўсёды, на працу. І там пачалі мне прыходзіць у галаву розныя роздумы. Божачкі, а калі нехта мяне ўсё ж падгледзеў? Што будзе, калі ён тыкне ў мяне пальцам і скажа ўсім, што гэта я — зладзейка...

Думка пра тое, што мяне мог нехта ўбачыць, не дае мне спакою. Я хаджу па горадзе і мне здаецца, што ўсе глядзяць на мяне. У нейкай хаце, дзе адбываецца гасціна, усе (так мне здаецца) глядзяць на мяне. І ўвесь час перад вачыма гэты злашчасны банк (мо гэта там месціцца мая праца?).

Грошы, якія я ўкрала, ужо перастаюць цешыць мяне, тым больш, што я даведалася пра следства, якое пачала весці паліцыя. Ну, як ужо яны пачалі, дык напэўна знойдуць вінаватага, думаю я. Гэта ў прыватных справах, дык яны цягнуць і ніколі злодзея не знойдуць, а што датычыць грамадскай уласнасці, дык усе сродкі кінуць дзеля таго, каб вярнуць украдзеныя грошы.

Не магу зразумець, ці мне больш страшна, ці больш шкада грошай. Я думаю, каб пайсці і вярнуць гэтыя грошы. Але ж будзе сорамна, бо і так усе даведаюцца, што я зладзейка...

Увесь час праследуе мяне думка, што я ўжо зрабіла такое не першы раз, што гэта ўжо рэцыдыў. Дзякуй Богу, што я нейк прачнулася?!

**Ёля**

Ёля! А, дальбог, нічога. Абазначае ён, што маеш пэўныя фінансавыя клопаты і недзе ў глыбіні душы марыш: во, каб ды напасці на нейкі банк! Аднак жа людзі, якім такія рэчы сняцца, у жыцці нават і мухі не пакрыўдзілі б!

**Астрон**

# Як раўнівы нябожчык пільнаваў жонку

На працягу ночы 32-гадовую ўдаву Галіну прабавала спакусіць трох мужчын. Усе памерлі.

Пасля смерці мужа Галіна доўгі час жыла як манашка, але надаела ёй ужо гэта ды рашыла вярнуць сабе радасць. Здаўна ўжо Юрка мяўся каля яе. Пры-няла яго запрашэнне дый паехалі ў рэстаран. Пасядзелі гадзіну, калі пры суседнім століку ўспыхнула бойка і ў той сумятні нехта смяротна ўдарыў Юрку нажом. Пераляканую Галіну адвёз дадому сусед Тамаш, які выпадкова апынуўся ў тым рэстаране. Запрасіла яго да сябе, бо з таго перапуду баялася аставацца адна. Дазволіла прытуліцца, абняць, пацалаваць. І ўжо між імі ўзнікла інтымнае пажаданне. Тамаш рашыў найперш прынесці бутэльку шампанскага. Пабег за ім у краму, што стаяла насупраць, ды ў спешцы папаў проста пад разагнаны фургон. Лекар, які прыехаў да выпадку, мог ужо канстатаваць толькі скон. Галіна абамлела. Лекар пачакаў пакуль акрыяла і адвёў яшчэ амаль непрытомную ў кватэру. Ёй было ўжо ўсё роўна і не пратэставала нават, калі доктар скінуў з сябе белы халат і, сказаўшы што зараз да яе вернецца, пайшоў у лазеньку ўзяць душ. Там пакаўзнуўся на мокрых плітках і мокрымі рукамі зачапіўся за электрычную разетку. Смерць наступіла адразу.

— Не веру ў ніякія супадзенні акалічнасцей, — тлумачыла пазней зусім прыгнечаная няўдачніца. — Я перакананая ў тым, што гэта штучка майго мужа. Ён мяне надалей пільнуе — вось і ўсё!

**Андрэй Гаўрылюк**

# Крыжаванка



**Гарызантальна:** 2. шведская валюта, 4. стыль архітэктуры інтэр'ера ў Германіі ў 1-й палове 19-га стагоддзя, 6. металічны кручок для зашпільвання адзення, 7. сфера дзейнасці, 9. паўсядзённае жыццё, 11. цэлюлёзная маса, з якой вырабляецца цэлафан, 12. пратабалгарскі хан (644—701), 13. дваранскі тытул у Англіі, 15. гарбузовая расліна, 17. сталіца Французскай Гвіяны, 18. Вячаслаў, беларускі літаратуразнавец (нар. у 1936 г.), 19. керамічны выраб для абліцоўкі печаў.

**Вертыкальна:** 1. палабскія славяне, абадрыты, 2. д'ябал, 3. найдобрасумленная справа, 4. Іван, беларускі мовазнавец (1883—1960), 5. Шота, грузінскі паэт 12—13 ст.ст., 6. бясколерны газ, злучэнне азоту з вадародам, 8. пладовае дрэва, 9. мужчынскі голас, 10. пустыня на ўсход ад Інда, 14. Пегі, англійская актрыса (1907—91), 16. слова або жэст для здагадкі, 17. вячэра напярэдадні Каляд.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 24 н-ра:**

**Гарызантальна:** схема, карнетыст, хорам, Арпад, ікс, Трыглаў, асалода, енк, Ленін, бугор, анкалогія, ражка.

**Вертыкальна:** Менелік, сорам, Арыка, Караганда, тапалогія, хурал, дудар, Іўе, сак, негліжэ, Нікар, багна.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

# Як пабачыць вялікую ваду

6 ліпеня захацелася маёй бабе Агаце паглядзець на возера ў Бандарах. Ну, што ж: павёз я яе паказаць тое возера. Не заўважыў я знака, куды нельга ехаць, дый заехаў не туды, дзе трэба; спыніў мяне паліцыянт і ўляпіў штраф на 20 зл. Ну і пабачылі мы возера! За тыя 20 злотаў купіў бы сабе паўлітра і меў бы мора па калені ў хаце, а не ў Бандарах.

**Дзядзька Захар**

Ніва

„Niwa", ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.
Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.
**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.
**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва". Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1997 r. upływa 5 września 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.
2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 13 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.
4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка

## Хто — сам?

Начальнік
На трыбуне ўсмак
Каманду бэсціў грозна:
Той — бюракрат,
А той — лайдак,
Той — сябра мафіёзны.

Прыбыткі коцяцца на дол...
Ідуць рэформы туга...
І што тут зробіш? —
Навакол
То — дурань,
То — зладзюга...

І одум сам сабою ўзнік
Няўмольны,
Хоць зарэжце:
Калі ты —
Іхні кіраўнік,
Дык хто ж ты сам урэшце?

**Генадзь Бураўкін**

## Каму — гора, каму — радасць

Еду ў аўтобусе ў сваю Малінаўку. Людзей, як заўсёды, шмат. Але мне ўдалося сесці. Пасажыры ўсе маўклівыя, хмурныя. Побач сядзіць пажылы мужчына, чытае газету „7 дней".

— Вось і зноў даражэе праезд у аўтобусе, талончык, куплены ў шафёра, будзе каштаваць дзве тысячы трыста рублёў, — даволі гучна (відаць, глухаваты) гаворыць ён.

— А што ж нам рабіць? — інтуітыўна ўскліквае побач дзяўчына. — Наш камбінат амаль не працуе, няма куды збываць прадукцыю.

— Дрэнны ваш дырэктар, — паварочваецца да дзяўчыны чырванатвары, відаць, на падпітку, мужчына. — У нас заказаў хоць адбаўляй. І зарплата добрая.

— А дзе ж працуеце? — пацікавіўся я.

— Як дзе? У спецкамбінаце.

— І што ж гэта за спецкамбінат, што за такі тавар ён вырабляе?

— Як які тавар? Самы хадавы — труны.

Нехта з маладых ззаду хіхікнуў, а астатнія пасажыры спахмурнелі яшчэ больш.

**Іван Стадольнік**




*Мал. М. Сеўлюка*

## У каго лепш

У купэ пасажырскага цягніка ехалі чацвёра мужчын. Таму размова, зразумела, зайшла пра жанчын.

— У мяне знаёмы „чаўнок" нядаўна ў Японію ездзіў. Жанчыны там — усе гейшы. Вузенькія вочкі, вузенькія таліі, поўныя задніцы — блеск!

— Ага, — незадаволена адазваўся мужчына з верхняй лаўкі. — У Японіі — гейшы, у Ізраілі — мойшы, а ў Расіі часцей!

— Што часцей? — не зразумеў расказчык.

— Прыгожыя часцей сустракаюцца. Нашы лепшыя за ўсіх.

— Так, — падхапіў мужчына з другой ніжняй лаўкі. — Вось у нас на Валагодчыне такія красуні! Я ў любым горадзе як толькі окаючую гаворку пачую, хоць ззаду, хоць збоку, магу ў той бок і не глядзець, ведаю — прыгажуня!

— Не, самыя прыгожыя жанчыны ў нас, — не згадзіўся той, што нахвальваў японак.

— А ты сам адкуль?

— Я — пензяк.

— Сціхні, пензяк, — зноў пачуўся голас з верхняй полкі. — Вось у нас у Курску жанчыны, дык жанчыны! Усміхнецца, курва, вочкамі і бёдрамі павядзе, хоць стой, хоць падай!

Паміж мужчынамі разгарэлася сур'ёзная спрэчка.

— Валагодская толькі окне, усе ахнуць! — даказваў валажанін.

— А наша, курская, нагу падыме — усе машыны спыняюцца! Таму што ногі ў яе даўжынёй са шлагбаўм!

— А я кажу: лепш чым нашы няма, — крычаў пензяк. — Лепшыя жанчыны ў нас!

— Паслухай ты, пензюк, — загаварыў мужчына з другой верхняй лаўкі, які да гэтага часу маўчаў.

— Не пензюк, а пензяк, — пакрыўдзіўся той.

— Якая розніца? Усе мы тут — пензюкі! І лепшыя жанчыны не ў нас, а ў іх!

— У каго гэта ў іх?

— У тых, хто едзе ў спальных вагонах. У каго ёсць грошы. Жанчыны, у першую чаргу, грошы любяць, а ўсё астатняе — лірыка.

Купэ замаўчала. Адна за другой тухлі лямпачкі. Мужчыны ляжалі і думалі кожны пра сваё, а ўсе разам пра адно і тое ж...

**Васіль Дзянісаў-Мельнікаў**

*Пераклад з рускай Валерыя Бабея*

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Жонка да мужа:

— Калі сёння вечарам прыйдзе той Іванка ды папросіць руку нашай дачкі, хопіць, калі скажаш „Згаджаюся". І вельмі цябе прашу: не падай на калені перад ім, і не цалуй па руках, і не гавары: „Мой ты збавіцель, мой збавіцель..."

* * *

Малады чалавек да бацькі нарачонай:

— Я прыйшоў прасіць руку вашай дачкі...

— Руку толькі?! Мовы няма: або ўсю, або прэч!

* * *

Маці дачцэ:

— Гэты твой кавалер так мяне не любіць, што я ахвотна стала б ягонай цешчай.

* * *

Бацька да кандыдата на зяця:

— Вы, вядома, курыце, гуляеце ў карты, бегаеце за кабеткамі...

— Ну, што вы! Не маю ніводнай з гэтых заган.

— Тады і не можаце стаць мужам маёй дачкі; пасля да канца жыцця ставілі б мне вас у прыклад.

* * *

Сын хваліць перад маці сваю нарачоную:

— Гэта цудоўная дзяўчына! Дасканала варыць, яшчэ лепей пячэ піражкі, вельмі любіць парадак у хаце, і ўсё ўмее.

— Добра, ангажырую яе! Хай прыходзіць у аўторкі і чацвяргі.

* * *

— Даражэнькі! — звяртаецца жонка да мужа. — Ці не хочаш хвіліну паражыць дрыжыкі жаху?

— Вельмі цябе прашу: толькі не спявай!

* * *

— Як адчуваеш сябе, ажаніўшыся?

— Не надта. Мая жонка ніколі не ведае, чаго хоча, але заўсёды ўмее дабіцца свайго.

## Сардэчныя ТАЙНЫ

Сэрцайка! Недалёка ад нашай вёскі знаходзіцца асяродак, у які прыязджае адпачываць моладзь і цэлыя сем'і. Я часамі гуляла з тымі дзецьмі ў баскетбол ці тэніс, хадзіла на марожанае ў іх кавярню. Ніколі не думала, што тут сустрэне мяне праўдзівае каханне.

А сёлета прыехаў ён. Мама, якая ніколі не ганяла мяне з гэтага асяродка, ужо пачала непакоіцца. Што ты там робіш, кажа, тырчыш цэлы дзень сярод чужых людзей...

Толькі найбліжэйшыя сяброўкі ведалі, чаго я там „тырчу". Гэты хлопец змяніў усё ў маім жыцці. Дагэтуль мяне акружалі вульгарныя хлопцы, з якімі не было аб чым гаварыць. Умелі толькі пацягнуць дзяўчынку за касу, задзерці ёй спадніцу, укінуць у туалетную ракавіну ў школе шкарпэтку, блузку ці нават абутак.

Гэты хлопец быў далікатны, гаварыў прыцішаным голасам. Падаваў, перапрашаў. Я пазнаёмілася з ім, калі на прыстані пазычала лодку, каб паплаваць. І ад таго часу я пачала прападаць у асяродку. І мама адразу здагадалася, што нешта тут не так, і вымусіла ад мяне, каб я ёй сама расказала пра гэтага хлопца. Мае сяброўкі, на жаль, праінфармавалі маму адразу, як толькі мы пачалі з ім хадзіць.

Мілае Сэрцайка! Мне ўжо 15 гадоў, а я яшчэ ніколі не хадзіла з ніводным хлопцам. А гэты... можа ён і не прыгажун, але адразу нешта стрэліла ў маё сэрца. Я сёлета закончыла пачатковую школу ў нашай мясцовасці і паступіла ў ліцэй у суседнім горадзе. А хлопец гэты — з Варшавы. Калі я толькі думала, што ён неўзабаве выедзе дахаты, бо прыехаў ён з бацькамі ўсяго на два тыдні, на душы рабілася пуста і сумна. Але, пакуль ён быў са мною, усё гэта было яшчэ далёка.

Аднойчы хлопец запрасіў мяне на дыскатэку і уяві сабе, мама дазволіла мне пайсці з ім. Ад гэтага часу мы ўжо не толькі абменьваліся гарачымі позіркамі. На дыскатэцы ён не адыходзіў ад мяне. Калі праводзіў мяне дахаты, палажыў мне руку на плечы, а пасля абняў мяне за талію.

Пасля гэтага памятнага вечара мы так ужо і хадзілі заўсёды абняўшыся (нават пры яго бацьках) і мне было вельмі прыемна. Часамі, калі ён прабаваў лавіць рыбу, я прыглядалася, як ён гэта робіць, стоячы на мосціку. Часамі ён падыходзіў да мяне ззаду, абнімаў мяне і клаў мне галаву на плячо.

Сэрцайка! Няўхільна надыходзіў час расстання. На думку пра гэта на мае вочы наплывалі слёзы. Хлопец гаварыў мне, што напіша мне адразу дзесяць лістоў, што прыедзе наведаць мяне з дваюраднай сястрой, добрай яго кумпэлькай, да якой ён паедзе яшчэ пасля адпачываць. Усе ўжо ведаюць, што я цябе пакахаў цалкам, сур'ёзна, казаў ён мне і прасіў, каб я вучылася ў Варшаве, ды менавіта ў тым ліцэі, куды здаў ён.

На развітанне пацалаваў мяне ў шчаку і даў цудоўны сувенірчык, які я цалую, калі вымаю яго, каб успомніць майго хлопца. Іду на тую прыстань, дзе мы найчасцей з ім стаялі, спаглядаю на выразаны ножыкам надпіс на парэнчы: „Юрка і Аня", ды дату нашага растання. Ужо чакаю будучага года, калі ён ізноў прыедзе сюды адпачываць з бацькамі.

Мілае Сэрцайка! Як ты думаеш, ці наша каханне пратрывае? Я плакала два дні і дзве ночы. Крыху супакоілася, калі мама сказала: „Можна быць добрымі сябрамі і жывучы на адлегласць!" Мне неяк палягчэла. Мо з гэтага сапраўды нешта выйдзе...

**Аня**

Аня! У тваім жыцці яшчэ будзе шмат сустрэч і расстанняў, дык добра, што ты адразу спазнала саладжэчу і горыч гарачага пачуцця. Перад вамі яшчэ шмат спраў, якія неабходна ў жыцці зрабіць: вучоба ў сярэдняй школе, у вышэйшай — мо таксама. Напэўна калісьці трэба перажыць тое першае каханне. Часамі бывае яно вельмі кароткае, як менавіта трапілася табе. Няма ў цябе, бадай, магчымасці ехаць вучыцца ў варшаўскі ліцэй. Можа твой хлопец цябе наведаць, а можа яго дваюрадная сястра яму скажа, каб не выдурняўся. Ён яшчэ аб нічым не вырашае, бо, як і ты, толькі што здаў у ліцэй. Малады! Можа ён пісаць табе лісты, а мо і не. Вось прышле паштовачку на свята, а ты прышлеш яму.

Нават калі і прыедзе ён на будучы год адпачываць у тваю мясцовасць, невядома, ці застанецца нешта з вашых пачуццяў. Час, ён гоіць усе раны і дазваляе чалавеку апамятацца і сістэматызаваць свае пачуцці.

Вельмі добра табе параіла мама. Ты павінна бачыць у ім сябру, а не каханага хлопца. Так будзе спакайней і лепш. Ведай, што каханне з такіх ранніх гадоў рэдка калі пратрывае даўжэйшы час. Я ўпэўнена, што ў гарадскім ліцэі ты знойдзеш шмат новых сяброў.

**Сэрцайка**